Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

9 мая 2003 года

№ 19 (420)
Выходзіць па пятніцах






«Рэгіянальная газета» віншуе ўсіх чытачоў з Днём Перамогі!

## Навіны рэгіёну

### Без гарачай вады

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. У Маладзечне з 12 мая пачнецца апрасоўка, і ў кватэрах адключаць гарачую ваду.
Апрасоўка працягнецца да 23 мая. За гэты час пад павышаным ціскам праверацъ на трываласць гарадскія цеплaсеткі з мэтай папярэдзіць паломкі, якія могуць узнікнуць зімой. Жыхарам тых дамоў, што акажуцца ў раёне буйных паломак, прыйдзецца пачакаць да завяршэння рамонту. У Вілейцы ваду адключаць 19 мая на 3 тыдні.

Аддзел інфармацыі «РГ».

### Зроблена ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА. На абласным конкурсе мадэляў пажарнай тэхнікі першыя два месцы занялі мадэлі машын, зробленыя ў Вілейцы.
Іх зрабілі **Дзяніс Альфер** і **Дзмітрый Дзяруга**, якія займаюцца ў Вілейскім цэнтры дзіцячай тэхнічнай творчасці. За перамогу хлопцы атрымалі дыпломы, скураныя мячы і спартыўныя сумкі. Іх мадэлі застануцца ў Мінску, у музеі пажарнай тэхнікі, які маркуюцца стварыць.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Выбіралі "Міс"

МЯДЗЕЛ. У райцэнтры адбыліся 2 конкурсы, на якіх выбіралі "Міс". У адным — сярод маленькіх прыгажунь. Тут паза канкурэнцыяй была 4-гадовая **Каця Ардынец**, якая заваявала галоўны тытул і прыз сімпатый гледачоў. Але нейкі тытул і мяккая цацка дасталіся кожнай з удзельніц. А ў другім конкурсе, сярод школьніц старэйшых класаў, тытул "Міс Вясна-2003" заваявала Святлана Сутулава.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Мама + тата

СМАРГОНЬ. Упершыню члены «Клуба адзінокіх татаў» сустрэліся з «Клубам адзінокіх маці».
Сустрэча адбылася ў тэрытарыяльнам цэнтры сацыяльнага абслугоўвання на даму «Цёплы дом». Бацькі на сустрэчу прыйшлі разам з дзецьмі, пілі гарбату, спявалі пад гітару. Супрацоўнікі «Цёплага дома» заўважылі, што мамы былі больш актыўныя за татаў.

Ірына РАБУШКА.

### Сайт Нацпарку

МЯДЗЕЛ. На адным з сайтаў Кіраўніцтва справамі прэзідэнта з'явілася старонка Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Пакуль інфармацыі там мала, але супрацоўнікі Нацпарку спадзяюцца ў хуткім часе самі папаўняць старонку, каб там мелася дастаткова звестак пра магчымасці адпачынку на Нарачы.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Прызналася праз 60 гадоў

**СМАРГОНЬ. Пра тое, што Соф'я Канстанцінаўна Козел была партызанкай, стала вядома ўсім толькі цяпер.**

Яе унук, які летась скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага універсітэта імя Танка, атрымаў заданне схадзіць ў архіў і знайсці неабходную інфармацыю. Там ён сустрэў дакумент, на якім было пазначана прозвішча яго бабулі.

... Калі пачалася вайна, Соф'і Канстанцінаўне было толькі 18. І жыла яна тады ў Вілейскім раёне, у вёсцы Мамаі. 8 месяцаў яна падтрымлівала сувязь з партызанамі. "Пазнаёмілася я з імі, калі яны прыходзілі да нас, каб паесці, з бацькам пагаварыць, бывала, пакурыць яму дадуць.

– З братам мы часта хадзілі ў Вілейку (тады многія так рабілі) па просьбе партызан: куплялі там неабходныя ім рэчы. Я пазнаёмілася з сям'ёй, якая была блізкая да бургаміcтра, муж быў у яго шафёрам, а жонка – цырульнікам. Прыходзіла да іх, яны мне давалі вопратку, медыкаменты, якія я даставляла партызанам. Аднойчы прыходжу ў гэту сям'ю, а там сядзіць немец, пузаты такі. Ён паглядзеў на мяне і пытае: " Партызан?" Я разгубілася, а гаспадыня дома гаворыць: "Не, гэта не партызан. У яе маці і бацьку партызаны забілі, яна – во – ходзіць, пабіраецца". Немец у адказ даў мне шакаладку і пайшоў. "А што ж яму ўзамен даць, у мяне ж няма нічога, - звярнулася я да гаспадыні. А яна мне на поўным сур'ёзе кажа: "Міну яму дай".

Я прыйшла і гавару гэта разведчыкам. Яны мяне паслухалі, потым далі мне каня, каб я з'ездзіла ў Вілейку, прывязла гэту цырульніцу (яна была кульгавая). Яны з ёй аб усім і дагаварыліся. А мне далі міну англійскую, маленечкую такую, расказалі, як яе прымяняць, запатрабавалі, каб я ім усё пераказала.



**Соф'я Козел падчас вайны знішчыла Вілейскага бургаміcтра. Але аб гэтым расказала толькі цяпер.**
Фота Галіны АНТОНАВАЙ.

Недалёка ад Вілейкі, на пераездзе, мяне сустрэлі два немцы, спыталі: "Куды ідзеш? Што нясеш?" Я ім адказала, што нічога сур'ёзнага, яны мне не праверялі і міны не заўважылі.

Там, дзе жыў бургаміcтр, дом вартавалі, а там, дзе жылі вадзіцель з жонкай, ніхто не вартаваў, і бургаміcтр час ад часу да іх наведваўся без варты. Міну я аддала шафёру, ён яе пасля ў сметніцу бургамістру падклаў, а мне сказаў два тыдні у Вілейку не хадзіць. У хуткім часе праляцела чутка аб тым, што бургаміcтр Вілейскі загінуў, у горад прыслалі другога бургаміcтра, а мне далі другую міну.

Я прыйшла з ёй у Вілейку, а там ужо рускі самалёт лётаў. Аддала міну разведчыкам, і яе павезлі ўперад фронту, у Латвію, туды, дзе яшчэ можна было яе прымяніць.

А хутка і вайна скончылася. Праўда, немцы вёску Мамаі спаліць паспелі, яшчэ ў 1944-м 16 самалётаў палілі па дамах і людзях. Усё з-за таго, што з партызанамі мамаеўцы зналіся. Многія вяскоўцы на месцы загінулі, некаторыя паўцякалі – паплылі па Вяллі, хто паспеў уцячы, выжылі. Выжыла і юная Соф'я.

А вось вадзіцеля за тое, што "прыслужваў бургаміcтру", пасля вайны пасадзілі. Хоць ён і не быў ворагам народа, але ж тады, пры Сталіне, ніхто не разбіраўся падрабязна. Мяне таксама выклікалі ў следчы аддзел, але адпусцілі і больш не турбавалі", – завяршыла свой аповед Соф'я Канстанцінаўна.

Пасля вайны яна працавала ў Маладзечне, а ў Залессе з сям'ёй пераехала ў 1954 годзе. Да гэтуль там і жыве. Ужо 8 гадоў як удава, мае дзве дачкі.

У свае 78 выглядае цудоўна, на галаве – ні сівога валаска. На пытанне, што робіць з імі, жартуе: "Я ўсім так кажу, хто пра валасы пытае: "У мяне надта добры муж быў, усе сівыя валасы павырываў, а чорныя – папакідаў. Таму і выглядаю так."

Нельга сказаць, што аб Соф'і Канстанцінаўне забыліся. У свой час яе шукалі, але па дзявочым прозвішчы яе ніхто не ведаў.

– Аднойчы нават мне пісьмо прыйшло з Вілейкі, з музея, каб я фотакартачку сваю туды паслала, але я гэтага не зрабіла. Муж смяяўся з мяне, што я партызанка, таму я ні дзецям, ні ўнукам нічога не расказвала. Мая суседка таксама была ў партызанах, ездзіла аж у Мінск, каб гэта даказаць, але ніякіх дакументаў не знайшла, – пачала свой аповед Соф'я Канстанцінаўна. – Да 2002 года я не карысталася ніякімі льготамі. Калі даведаліся аб гэтым у ваенкамаце, дык сказалі: "Ой, вы ж столькі грошай згубілі".

Летась Соф'я Козел атрымала даведку ад камітэта КДБ Рэспублікі Беларусь аб тым, што ў перыяд з верасня 1943 года па май 1944 года была сувязной партызанскага атрада "Баявы".

Галіна АНТОНАВА.

**Незагойная рана**



Фаіна Анасовіч стала адзінай са спаленай вёскі Боркі, якая выратавалася ад здзекаў фашыстаў.

2-я старонка

**Рудольф Дызель**



Гісторыя жыцця і смерці знакамітага вынаходніка рухавіка ўнутранага згарання.

7-я старонка

**Мінёр-падрыўнік**



Ніна Палянская з Радашкавічаў падчас вайны размініравала мінныя палі.

8-я старонка

■ КУЛІНАРЫЯ

# «Смачны» конкурс

**МАЛАДЗЕЧНА. Ці цяклі ў вас хоць аднойчы слінкі ад убачаных страў?**

Не? Уявіце: вялікі запечаны шчупак "Па вашым жаданні" з мудрагелістымі ўпрыгожваннямі з садавіны; рог "Дастатак", у якім і сапраўды ўсяго ў дастатку; салата "Княгіня", падобная на гэты знатны тытул; торт-дэсерт у форме більярда з амаль сапраўднымі більярднымі шарамі, якія так і просяцца ў рот; фаршыраваны парсючок, які быццам бы пагладае на цябе і просіцца "З'еш мяне!"; пірог "Хатка ў вёсцы", нібыта сапраўдная сядзіба дбайнага гаспадара, толькі салодкая, і яшчэ можа 150 страў – адна лепшая за другую.

Усё гэта можна было ўбачыць на конкурсе кулінарнага майстэрства і сэрвісу. У ім удзельнічала 21 з 54 гарадскіх прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Дарэчы, Маладзечна ў гэтай галіне займае адно з вядучых месцаў у вобласці. Паміж сабой спаборнічалі 19 повараў, 5 кандытараў, 8 барменаў і 8 афіцыянтаў. У кожнай намінацыі былі свае асы і, канешне ж, пераможцы. Напрыклад, бармену **Валянціну Генаву** далі пуцёўку на рэспубліканскі конкурс. Старшыня журы намеснік начальніка аддзела спажывецкага рынку харчовых тавараў "Мінаблсельгасхарчпрома" **Галіна Васялега** адзначыла, што нароўні з майстрамі сваёй справы выступала шмат маладых спецыялістаў. Яны нават пераўзышлі сваіх старэйшых калег. Г. Васялегу ўразілі мясцовыя булачнікі:

– Такія пірагі можна ўбачыць толькі на маладзечанскай зямлі.

Калі поварамі ці кандытарамі часцей аказаліся жанчыны, то барменамі і афіцыянтамі – мужчыны. Адзначылі работу афіцыянта **Сяргея Паследа**. Ён зрабіў тэматычную сервіроўку стала, прысвечаную сёлетняму фестывалю беларускай песні і паэзіі, які пройдзе ў Маладзечне.

Сярод каманд-пераможцаў 1-е месца заняў калектыў рэстарана "Маладзечна". Рыхтаваліся яны, як, напэўна, і іншыя канкурсанты, усю ноч – з 7 гадзін вечара і да паловы сёмай раніцы. Удзельнічаюць яны не першы раз. Летась таксама былі пераможцамі. Да сёлетняга конкурсу рыхтаваліся грунтоўна – тытул лягчэй заваяваць, чым потым яго адстаяць. Новы посуд купілі. Напрыклад, вялікую талерку за 200 тысяч рублёў. Усяго на падрыхтоўку да конкурсу рэстаран затраціў каля 1,5 мільёна рублёў. Тэхнолаг рэстарана **Ядвіга Еўчанка** была ўпэўненая яшчэ да абвяшчэння вынікаў, што першае месца будзе ў іх. Назвы сваім стравам самі прыдумвалі. Майстар у гэтай справе – повар пятага разраду **Рыта Суднікові**ч. Напрыклад, "Цешчына кішэня" – гэта яна прыдумала. Чаго ў ёй толькі не было! Мяркую, такія кішэні бываюць толькі ў цешчы. Р. Суднікові ч добры майстар і ў поварскай справе. Яна гэта пацвердзіла – заняла 3-е месца сярод повараў.

Я. Еўчанка разам з начальніцай кандытарскага цэха рэстарана **Галінай Пташнік** сказала, што ўсім калектывам адзначаць перамогу. Накрыюць святочны стол, прыдумаюць якую-небудзь новую салату і спякуць торт, што яны вельмі любяць рабіць.

Ірына РАБУШКА.



Повар 6-га разраду Таццяна Самаль і повар 5-га разраду Рыта Суднікові ч з рэстарана «Маладзечна» сядзяць за «фестывальным сталом».

Фота Ірыны РАБУШКІ.



Прадстаўнікі каманды-пераможцы рэстарана "Маладзечна" гарадскога конкурсу кулінарнага майстэрства і сэрвісу: начальніца кандытарскага цэха Галіна Пташнік і тэхнолаг Ядвіга Еўчанка.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Курсы валют НБ РБ

| | 30.04 руб. | 8.05 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2021,00 | 2023,00 |
| Еўра | 2218,05 | 2269,40 |
| Злоты | 518,87 | 535,26 |
| Літ | 642,36 | 657,15 |
| Расійскі рубель | 64,98 | 65,01 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2020/2030 | 2025/2033 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 30.04 | 7.05 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11900 | 12100 |
| Сасіскі, 1 кг | 4090 | 3750 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1400 | 1400 |
| Цукар, 1 кг | 1140 | 1140 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1100 |
| Алей, 1 л | 1800 | 1750 |
| Маянэз, 200 г | 470 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 680 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1000 | 950 |
| Капуста, 1 кг | 1050 | 1200 |
| Морква, 1 кг | 950 | 1100 |
| Лімоны, 1 кг | 2200 | 2100 |
| Апельсіны, 1 кг | 1750 | 1850 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2100 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | 1400 |
| Бульба, 1 вядро | 3500 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1180 | 1200 |

■ ЭКАНОМІКА

## Прагноз не апраўданы

**МАЛАДЗЕЧНА. Па выніках першага квартала горад не выканаў асноўныя паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця.**

Больш трэці прамысловых прадпрыемстваў горада знізілі аб'ёмы сваёй вытворчасці ў параўнанні з леташнім перыядам. Калі б яны спрацавалі хаця б на ўзроўні 2002 года, гарадскі аб'ём прамысловай вытворчасці стаў бы 107% ад леташняга, што забяспечвала б выкананне плана. Фактычна гэты паказчык – 102,9%. Тое можна сказаць і па аб'ёме спажывецкіх тавараў – 104,9% замест запланаваных 108%.

Асабліва павялічваецца запас гатовай прадукцыі на складскіх памяшканнях. Ён дасягнуў амаль месячнага аб'ёму. Па дадзеных гарвыканкома, на станказаводзе і "Дарвектары" на складзе ляжыць нерэалізаванай прадукцыі больш за 4 месячныя аб'ёмы. Мінскі аблвыканкам даў гораду заданне – давесці запасы прадукцыі на складах да 79% ад месячнага аб'ёму па выніках першага паўгоддзя.

Першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** адзначыў, што горад так дрэнна спрацаваў у першым квартале. Ён сказаў, што выканкам вельмі занепакоены становішчам ў эканоміцы горада. Першыя 2 месяцы года большая частка прадпрыемства закончыла са стратамі. Дапускаецца запазычанасць па заработнай плаце. Я. Ідэльчык на мінулым пасяджэнні гарвыканкома прапанаваў кіраўнікам прадпрыемстваў, каб прагнозныя паказчыкі па выніках работы за 4 месяцы былі выпраўленыя, а па выніках паўгоддзя – выкананыя.

Юрый КАРПІЦКІ.

■ ЗДАРОЎЕ

# Распаўсюджаныя міфы пра курэнне

**Тое, што курэнне прыцягвае нашых падлеткаў, вядома ўсім.**

Адной з прычын гэтага становішча тое, што большасць тых, хто спрабуе курыць, не ўяўляе той шкоды, якую нясе гэтая шкодная звычка. Падлеткі часта знаходзяцца ў палоне распаўсюджаных міфаў пра курэнне. На жаль, яны не ведаюць, як усё на самой справе. Вось некалькі міфаў, якія ўводзяць падлеткаў у зман.

**Міф 1. Кураць усе**

Гэта не так. Большая частка чалавецтва не курыць. У эканамічна развітых краінах мода на курэнне паступова праходзіць. Цяпер цывілізаванае грамадства прапагандуе спартыўны стыль, спартыўную фігуру, рэгулярныя заняткі фізічнымі практыкаваннямі, штодзённую гімнастыку. У ЗША за апошнія гады кінулі курыць каля 35 мільёнаў чалавек, у Англіі – каля 8 мільёнаў.

**Міф 2. Кінуць курыць лёгка**

Большасць курыльшчыкаў спрабавала кінуць курыць адзін раз у жыцці, і гэта ў іх не атрымалася. Па дадзеных сусветнай арганізацыі па ахове здароўя, першая спроба кінуць курыць удаецца толькі кожнаму сотаму курыльшчыку са стажам.

**Міф 3. Курэнне не прыносіць шкоды**

Гэта вялікая памылка. Курэнне – галоўны фактар рызыкі захворванняў лёгкіх, сэрца, нервовай сістэмы. Калі чалавек пачаў курыць у 14-15 гадоў, працягласць яго жыцця змяншаецца на 8-9 гадоў. Нямецкія вучоныя падлічылі, што адна выкураная цыгарэта змяншае жыццё на 12 хвілін.

**Міф 4. Курэнне шкоднае толькі для курыльшчыка**

Гэта не так. Пасіўныя курыльшчыкі, што знаходзяцца ў кампаніі, якая курыць, рызыкуюць не толькі прывыкнуць да табачнага дыму, але і атрымаць увесь "букет" захворванняў, звязаных з курэннем.

**Міф 5. Курэнне дапамагае стаць стройным**

Гэта не так. Але ў тых, хто кінуў курыць, узнаўляецца адчуванне смаку, таму спачатку былыя курыльшчыкі пачынаюць больш есці – сказваецца здароўе і апытыт, якія вярнуліся. Адпаведна, набіраюць вагу. Менавіта ад гэтага ідзе такі міф. А як кінеце курыць, то вам цяпер самы час заняцца штодзённай фізкультурай, ужываць больш садавіны і гародніны.

Праблему падлеткавага курэння не вырашыш толькі гэтым артыкулам. Акрамя таго, што трэба палепшыць прафілактычную работу сярод курыльшчыкаў, трэба не забываць і пра іншыя фактары, якія даюць глебу для ўкаранення гэтай шкоднай звычкі: праблемы занятасці вольнага часу, стрэсы, эканамічныя праблемы, дурны прыклад з боку бацькоў і сяброў-курыльшчыкаў.

Маргарыта ЛЕАНОВІЧ, падлеткавы псіхіятр-нарколаг.

# Маладзечну салютавала Масква

**Так, гэта сапраўды было 5 ліпеня 1944 года. Магчыма, многія ў сталіцы СССР ніколі і не ведалі пра Маладзечна, але вядомым для масквічоў і іншых у краіне гэты горад стаў пасля зачытанага Юрыем Левітанам Загаду Вярхоўнага галоўнакамандуючага І.В.Сталіна, які тлумачыў чаму неба Масквы ў гэты дзень павінна было азарыцца залпамі урачыстага салюта.**

Да гэтага Масква салютавала 2 ліпеня з нагоды вызвалення Вілейкі, Краснага, Стоўбцаў, Гарадзеі і Нясвіжа. 3 ліпеня – сталіцы Беларусі – Мінска.



1964 год, Маладзечна. Перазахаванне ў брацкую магілу ў скверы ля Дома культуры будаўнікоў (цяпер гэта будынак Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка") астанкаў савецкіх воінаў і партызанаў, якія загінулі ў баях за вызваленне горада.

Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.

## Традыцыі святкавання

Колькі ведаю, дзень вызвалення заўсёды шанавалі ў Маладзечне. За "вобласцю" яму прысвячаліся, як правіла, два масавыя мерапрыемствы: святочнае прадстаўленне на гарадскім стадыёне і выезд гараджан і мастацкіх самадзейных калектываў на свята ля абеліска на Нарачы.

Ехалі на звычайных адкрытых грузавіках, спалі на сенавалах, але, па сабе ведаю, колькі жадання было ўдзельнічаць у гэтым свяце на вядомым возеры.

У горадзе склаўся рытуал святкавання дня вызвалення, які стаў традыцыйным. Пачынаўся ён з ускладання кветак да помніка Леніну на цяперашняй Цэнтральнай плошчы, пасля пачыналася шэсце да абеліска на брацкай магіле ў скверы ля Дома культуры будаўнікоў, дзе праводзіўся мітынг і кветкамі ўшаноўвалася памяць тых, хто загінуў за вызваленне і мірнае неба над горадам. Заканчваліся ўрачыстасці тэатралізаваным прадстаўленнем для многіх тысячаў маладзечанцаў на стадыёне.

Толькі два святы – Дзень Перамогі і Дзень Вызвалення не патрабавалі ніякіх арганізацыйных мер па забеспячэнні яўкі людзей на прысвечаныя ім мерапрыемствы. Хутчэй, наадварот, трэба было ўводзіць некаторыя абмежаванні, бо з кожным годам шэсці з кветкамі і вянкамі да памятных месцаў станавіліся ўсё больш масавымі.

## Юбілеі

Незвычайнымі і памятнымі для многіх маладзечанцаў урачыстасцямі былі ў 1964 годзе з нагоды 20–годдзя вызвалення горада і ў 1974 годзе ў сувязі з 30–годдзем вызвалення.

У 1964 годзе у брацкую магілу ў скверы ля Дома культуры будаўнікоў адбылося перазахаванне ў брацкую магілу астанкаў 363 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі за вызваленне Маладзечна. З тых часоў гэта месца стала месцам пакланення ўдзячных гараджан.

У 1974 годзе на ўрачыстасці ўпершыню ў горад з'ехаліся камандзіры вайсковых часцей, якім было прысвоена найменне "Маладзечанскіх".

## «Маладзечанскія» часці

На той момант з дзейсных "Маладзечанскіх" вайсковых часцей засталася толькі ракетная часць у горадзе Гвардзейску Калінінградскай вобласці. З гэтай часцю ў горада ўсталяваліся рэгулярныя цесныя дружалюбныя стасункі. Камандаванне ракетчыкаў штогодна ўдзельнічала ў сходах па падвядзенні вынікаў работы прадпрыемстваў горада і на ўрачыстасцях з нагоды вызвалення. У маладзечанскім гарваенкамаце праводзіўся мэтавы набор прызыўнікоў на службу ў гвардзейскай "Маладзечанскай" вайсковай часці. Дэлегацыі горада, у лік якіх уваходзілі і бацькі, выязджалі на прынянцце вайсковай прысягі.

Усё гэта было, было… Ці засталася сёння апошняя вайсковая часць з найменнем "Маладзечанская"?..

## Помнік у парку

Яшчэ адным месцам пакланення стаў помнік у гонар вызвалення Маладзечна ў гарадскім парку.

У канцы сямідзесятых гадоў у кіраўніцтва горада выспела рашэнне ўвекавечыць сумесны подзвіг воінаў і партызан велічным помнікам у парку.

Але здзейсніць гэтую ідэю аказалася вельмі няпроста. І справа не толькі ў тым, што для гэтага патрэбныя былі салідныя фінансавыя сродкі. Патрэбны быў дазвол ЦК КПБ і ўхваленне яго праекта спецыяльнай камісіяй пры вышэйшым партыйным органе рэспублікі.

Такі жорсткі падыход да ўзвядзення помнікаў быў устаноўлены па наступных прычынах. Наколькі мне вядома, упершыню ў шырокіх маштабах і на дзяржаўным узроўні сталі адзначацца мерапрымствы ў сувязі з вызваленнем рэспублікі з 1964 года, у 20–ю гадавіну гэтай падзеі. Суправаджалася гэта высакародным і шырокім рухам па ўвекавечванню памяці воінаў, якія загінулі ў баях за Радзіму.

Масавы характар у сувязі з гэтым атрымала будаўніцтва помнікаў і абеліскаў, якія былі выкананыя не заўсёды на добрым мастацкім узроўні, а часам – нават прымітыўных. Дайшло нават да казуса, калі ў адным калгасе самадзейная брыгада, якая падрадзілася адбудаваць помнік, відавочна ў знак удзячнасці за добрую аплату, ажыццявіла сваю ідэю ў выглядзе салдата з аўтаматам на пастаменце, твар якога быў вельмі падобным на аблічча старшыні гаспадаркі. Узнікла праблема: старшыня па сваіх заслугах ніяк не "цягнуў" на такі гонар, але і знесці помнік не проста: не зразумеюць людзі, бо на пастаменце высечаныя імёны іх родных, якія загінулі ў час вайны.

Каб не дапусціць падобнага, ЦК КПБ і ўзяў пад свой кантроль узвядзенне помнікаў. Прайсці яго мог толькі праект, выкананы высокапрафесійным сталічным скульптарам.

Але і тады не абышлося без цяжкасцяў. Калі ў майстэрні скульптара па вуліцы Сурганава ў Мінску быў гатовы ў гліне макет помніка, ударылі нечакана моцныя маразы і ён размерз, з–за чаго атрымалася значная затрымка з тэрмінамі ўзвядзення манумента.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

■ ЛЁСЫ

# Апошні бой – ён цяжкі самы

**Доўга шукаць дом Фёдара Шачыкава не давялося: яго, ветэрана Айчыннай вайны і працы, добра ведаюць ва ўсёй Ільі.**

Тым больш, што ў 70-х гадах ён тут доўгі час працаваў старшынёй сельсавета. Ён – жаданы госць у сярэдняй школе, сельскагаспадарчым тэхнікуме, Доме культуры. І само сабой вядома, што яму заўсёды радыя ў выканкоме сельсавета. Але на гэты раз Фёдар Ягоравіч цікавіў мяне як былы франтавік.

Пасля вызвалення Аршаншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (а гэта радзіма Шачыкава) 18-гадовы юнак трапіў у запасны полк. Прайшоўшы адпаведную падрыхтоўку, Фёдар трапіў ва Усходнюю Прусію.

Шачыкаў ведаў, за што і за каго ён будзе помсціць. У 1942 годзе фашысты за сувязь з партызанамі расстралялі яго бацьку Ягора Карнеевіча, а некалькі тыднямі пазней і старэйшую сястру Марыю, партызанку, якая з чарговым заданнем ішла ў разведку. У вёсцы Панізоўе Дубраўскага сельсавета засталіся хворая маці Ульяна Сямёнаўна, сястра Таня і малодшы брат Міша, а таксама немаўлятка Іванька (Марыін муж ваяваў на фронце).

## Усходняя Прусія

Яшчэ задоўга да вайны немцы стварылі тут моцную глыбока эшаланіраваную сістэму палявых і доўгачасовых умацаванняў. Для абароны прыстасоўваліся хутары, замкі, жылыя дамы. Асабліва шырока разгарнуліся работы пасля паражэння на Волзе. Абарона дасягала глыбіні 150-200 кіламетраў. Напрыклад, у напрамку Гумбінен (цяпер г.Гусеў) – Кёнігсберг, дзе наступала 5-я армія, было дзевяць умацаваных палос. Не спрыялі наступленню і метэаралагічныя ўмовы: галаледзіца, суцэльная нізкая воблачнасць (перашкода для самалётаў) і густы туман, з-за якога нельга было назіраць за праціўнікам.

## Помста за родных

У выніку шасцідзённых напружаных баёў, якія распачаліся 13 студзеня, войскі 3-га Беларускага фронту прарвалі добра ўмацаваную абарону праціўніка на кёнігсбергскім напрамку ў паласе больш за 60 кіламетраў і прасунуліся на 40-45 кіламетраў.

– У далейшым аж да 26 студзеня, – тлумачыць Фёдар Ягоравіч, – мы рухаліся ў сярэднім па 8–9 кіламетраў у суткі. І ўсяго за 14 дзён пераадолелі 120 кіламетраў. А да 10 лютага войскі фронту ўклініліся ўжо на 200 кіламетраў.

На гэтым і завяршыўся першы этап Усходне-Прускай стратэгічнай наступальнай аперацыі. Паўдзельнічаць да канца ў другім, завяршальным этапе Шачыкаву не давялося. Ужо непадалёк ад Кёнігсберга здарылася няшчасце. Як заўсёды, да пачатку адкрытага бою, седзячы напагатове з аўтаматам на танку, Фёдар адчуў пякучы боль у грудзях і зваліўся з танка. Такое на фронце здаралася часта, і ніхто з байцоў не кінуўся яго ратаваць: на тое ёсць санітарная служба – падбяруць.

Апрытомнеўшы, салдат стараўся прыўзняцца, але не змог. Відаць, шмат крыві выйшла. Лілася кроў і цераз горла. Аднак куля наскрозь не прайшла, недзе пад сэрцам засела, бо на спіне болю не адчувалася. Побач цурчэў ручэй. Правай рукой парожняй гутаперчавай табакеркай зачэрпнуў вады. Міжволі ва ўсмешцы скрывіў рот: во, вайна, кроў вакол ліецца, а тут такая чыстая вада.

Прагнаўшы смагу, стаў разважаць: "Я знаходжуся на нейтральнай паласе, і немцы ў любы час могуць пайсці ў контратаку. З цяжка параненым яны валаводзіцца не будуць – даб'юць. А не, дык мяне смерць напаткае ў канцлагеры"…

Пры ім – дзве гранаты: процітанкавая і праціпяхотная ("лімонка"). І запас патронаў да аўтамата.

"Без бою не здамся, – падумаў баец". – Чамусьці ўсплылі ў памяці паэтычныя радкі: "Если смерть, то смерть со славой, чем бесславных дней позор". І вырашыў юнак пры падыходзе гітлераўцаў разам з сабою і іх падарваць.

## Вылратаванне

Але, на шчасце, падпаўзлі свае санітары:

– Што, славянін, жывы?

На насілкі – і пацягнулі. Далей – конная фурманка, санбат. Дасталі кулю – і ў Гумбінен, у баях за ўзяцце якога нядаўна і Шачыкаву прыйшлося ўдзельнічаць. Тут і размяшчаўся шпіталь. Шанцаў на выздараўленне не было, і Фёдара хутка перанеслі ў палату для "безнадзейных". Дзень, другі… І во дзіва! Без усякага лячэння Шачыкаў стаў сябе нібы лепш адчуваць. "Буду жыць!" – узрадаваўся ён. А вакол – трупы тых, каго адправілі сюды паміраць. Агледзеўшы ў чарговы раз "безнадзейных", урач кінуў галавой у бок Фёдара:

– Перанясіце ў ранейшую палату.

І ўсё ж тры месяцы знаходжання ў гумбіненскім шпіталі не далі суцяшальных вынікаў. Толькі ў шпіталі Горкага з'явіліся праблескі выздараўлення. У гэтым – заслуга прафесара Аншына, які, азнаёміўшыся з раненнем Шачыкава, сказаў:

– Бранхіяльны свішч, кажаш? І ён знікне. Паставім цябе, даражэнькі, на ногі. Толькі не забудзь на вяселле запрасіць.

Каб "паставіць хлопца на ногі", давялося выняць дзве рабрыны. І праз якія два месяцы Фёдар адправіўся на радзіму. Але ў Панізоўі прабыў нядоўга. Праўда, спачатку папрацаваў у калгасе, а ўжо потым паступіў на 9-месячныя курсы кінамеханікаў у Мінску. Пасля іх заканчэння хацеў вярнуцца на Аршаншчыну. Аднак яму сказалі, што ў Заходняй Беларусі такія спецыялісты больш патрэбныя.

Так і апынуўся ўчарашні франтавік у Ільі, дзе яго прызначылі начальнікам райаддзела кінафікацыі. Шэсць гадоў узначальваў выканком Ільянскага сельсавета. За баі ва Усходняй Прусіі ўзнагароджаны ордэнам Славы III ступені, а за мірную працу – ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Час ад часу наведвае Аршаншчыну, дзе жывуць яго брат Міхаіл і пляменнік Іван.

**Барыс МАНЦЭВІЧ.**

■ МІНУЛАЕ

# Справа святара Маеўскага

Мінула 58 год з дня Перамогі над фашысцкай Германіяй. Ужо выраслі праўнукі салдат, што 9 Мая 1945 года распісаліся на рэйхстагу. Усе пасляваенныя гады мы жылі пад дэвізам "Ніхто не забыты, нішто не забыта". І што ж? Гісторыкі да гэтага часу спрачаюцца наконт колькасці ахвяраў той вайны. Краязнаўцы да гэтага часу адшукваюць прозвішчы загінуўшых, чыіх безыменных магіл гэтак многа на нашай зямлі. А ў гарадах і вёсках непрыкметна адыходзяць з жыцця сваякі салдат, так і не дачакаўшыся, дзе склаў галаву родны чалавек.

Ушанаваць памяць людзей, якія аддалі жыццё за Радзіму – не проста высакародная справа, але і абавязак кожнага чалавека. А што можна сказаць пра тых, што не толькі выконвалі свой чалавечы і грамадзянскі абавязак самі, але, надзеленыя ўладай, усяляк перашкаджалі рабіць гэта іншым?

У нашым архіве захоўваюцца дакументы (яны раней былі засакрэчанымі), якія распавядаюць пра барацьбу, што вялі чыноўнікі ўсіх рангаў супраць святара Гарадзілаўскай царквы Маладзечанскага раёна **Аляксея Іпалітавіча Маеўскага**, каб перашкодзіць яму паставіць помнік жыхарам з Гарадзілаўскага прыходу, якія загінулі на вайне.



Савецкія ўлады не дазвалялі айцу Аляксею Маеўскаму з Гарадзілава на Маладзечаншчыне ўшанаваць памяць ахвяр вайны. І ўсё ж сёння на царкоўным двары ў Гарадзілаве ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі – помнік ахвярам вайны, помнік святару, які змагаўся за памяць аб мёртвых.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**А.І.Маеўскі: 1893 г. нараджэння. Нарадзіўся ў в. Спягла Вілейскага раёна, рускі, жанаты. У 1914 годзе скончыў Віленскую духоўную семінарыю і з чэрвеня 1914-га па снежань 1918-га года служыў псаломшчыкам у Валожыне ў Канстанціна – Яленаўскай царкве. Са снежня 1918 –га па жнівень 1944-га года служыў настаяцелем Іосіфаўскай царквы ў в.Гарадзілава Маладзечагнскага раёна і быў настаяцелем Гарадзілаўскага прыхода. З 25 жніўня 1944-га года указам Піцірыма прызначаны настаяцелем Гарадзілаўскага прыхода, з гэтага жа часу прызначаны і благачынным па Маладзечанскім раёне, а указам ад 16.07.1952 года – абласным благачынным, або сакратаром ад Піцірыма.**

## Будаўніцтва не дазваляць!

А пачыналася гэта непрывабная гісторыя так. У тлумачальнай запісцы ўпаўнаважанага Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы пры Савеце Міністраў СССР па Маладзечанскай вобласці **Дз.Кадоўбы** ад 10 лютага 1950 года, які даваў справаздачу свайму начальніку, упаўнаважанаму таго ж Савета па БССР **Г. Сямёнаву**, чытаем:

" 27 чэрвеня 1949 года да мяне зайшоў святар (благачынны) Гарадзілаўская царквы Маеўскі А.І. з просьбай аказаць яму садзеянне ў набыцці цэменту і вапны для пабудовы помніка на могілках у в. Гарадзілава ў памяць загiблых воінаў Вялікай Айчыннай вайны 1941 – 1945 гг., прычым Маеўскі паведаміў мне, што ён ужо заказаў 3 мемарыяльныя дошкі ў г. Мінску ў майстэрні школы глуханямых з надпісам імёнаў і прозвішчаў загінуўшых. Паколькі для мяне было гэта пытанне нявысветленае, я дазволу на будаўніцтва помніка не даў і ў той самы дзень сказаў сакратару аблвыканкома тав. Дзядзічкіну, каб ён пазваніў старшыні Маладзечанскага райвыканкама тав. Шаўчэнку аб тым, каб не даваў Маеўскаму будматэрыялаў на будаўніцтва помніка і, акрамя таго, я сам асабіста размаўляў з тав. Шаўчэнкам аб тым, каб не даваў святару Маеўскаму дазволу на будаўніцтва помніка.

Адначасова ў сваёй справаздачы за II квартал праз 3 дні я прасіў Савет і ўпаўнаважанага па БССР даць мне параду, як з гэтай справай быць. На гэтае пытанне я атрымаў ад Савета тлумачэнне 13 ліпеня 1949 года № 584 – с ад 7 ліпеня 1949 года, у якім Савет растлумачыў мне, што не варта не толькі аказваць садзеянне ў набыцці цэменту для пабудовы помніка, але і дазваляць само будаўніцтва. Пасля гэтага я таксама прасіў старшыню райвыканкома тав. Шаўчэнку не даваць дазволу на будаўніцтва помніка, які і адказаў мне, што з яго боку ніякага дазволу не было святару Маеўскаму, а таксама і ў набыцці матэрыялаў не аказаў садзеяння.

Па ўзгадненню з Саветам і аблвыканкомам з 15 ліпеня 1949 г., я атрымаў чарговы адпачынак і адбыў з межаў вобласці ў Гомельскую вобласць. Калі я вярнуўся з адпачынку, дык помнік святаром Маеўскім на могілках в. Гарадзілава за 25 метраў ад царквы быў узведзены і 7 жніўня 1949 года быў асвячоны, пра што я паведаміў у сваёй справаздачы за III квартал 1949 года ў Савет і ўпаўнаважанаму па БССР аб тым, што помнік узведзены без дазволу. Пазней высветлілася, што будаўніцтва помніка было санкцыянавана архіепіскапам".

## «Правінаваціўся»

З гэтай тлумачальнай запіскі робіцца зразумела, як моцна правінаваціўся Кадоўба, бо вышэйстаячым Саветам яму яшчэ ў ліпені 1949 года было дадзенае сакрэтнае указанне "не дазваляць святару Гарадзілаўскай царквы Маеўскаму будаваць помнік на магіле загінуўшых воінаў у Вялікай Айчыннай вайне". " Не зразумела, чаму вы (Кадоўба – аўт.) не выканалі гэтага ўказання і дапусцілі пабудову такога помніка. Акрамя гэтага, Вы дапусцілі набажэнства на брацкай магіле, што таксама не дазвалялася", - абураўся упаўнаважанны Сямёнаў. Кадоўба апраўдваўся :" Аб тым, што я праявіў недысцыплінаванасць, не выканаў асабіста свайго запыту на ліст Савета ад 07.07.49 г. за № 584-с аб пабудове помніка на могілках каля царквы ў в. Гарадзілава святаром Маеўскім, гэта зусім няправільнае абвінавачванне да мяне, але гэта было зроблена з дазволу архіепіскапа да таго, як я даведаўся, ён яго так і закончыў, не атрымаўшы дазволу на будаўніцтва, а таксама не атрымаў і матэрыялу. Пра гэта я даводзіў да ведама кіраўніцтву вобласці і раёна, але гэтаму пытанню не надалі асаблівага значэння. Дошкі з надпісамі, якія прывёз святар Маеўскі з гор. Мінска і прымацаваў да так званага помніка, пра які ішла размова 2 гады таму назад, што дошкі недзе ў гор. Мінску заказаны і, калі памяць мне не здраджвае, пра гэта ведаў Савет і ўпаўнаважанны па БССР. На заказаныя дошкі не звярнулі ўвагі, дзе Маеўскі іх будзе вешаць, ці ў сярэдзіне царквы, ці звонку.

Маеўскі выкарыстаў для сваёй мэты, узяў звесткі і спісы ў Маладзечанскім райваенкамаце грамадзян Гарадзілаўскага прыхода, забітых і без звестак прапаўшых у час Айчыннай вайны 1941 – 1945 гг; напісаў на дошках іх прозвішчы, імёны і імёны па бацьку. Вось такая атрымалася гісторыя названага помніка. Так што ў гэтым ставіць мне недысцыплінаванасць будзе няправільна".

Натуральна, што вырашыўшы ліквідаваць помнік, улады дамагліся свайго.

## Помнік знішчылі

Ужо вясной 1950 года паступіла пісьмовае данясенне ад святара Маеўскага аб тым, што "пабудаваны ім ў 1949 годзе помнік у гонар загінуўшых у Вялікую Айчынную вайну ліквідаваны, зняты ўсе мемарыяльныя дошкі з надпісамі імёнаў загінуўшых". Але гэтага ўладам было мала. Кадоўбу далі ўказанне тэрмінова праверыць і паведаміць Савету па справах Рускай праваслаўнай царквы пры Савеце Міністраў СССР :

"а) ці ліквідаваны помнік цалкам, ці толькі зняты мемарыяльныя дошкі з надпісамі імёнаў загінуўшых, а сам помнік застаўся некранутым;

б) па ўласнай ініцыятыве, ці па ўказанні Маеўскі ліквідаваў гэты помнік, чым гэта было выклікана і як на гэта рэагавала мясцовае насельніцтва".

Чаго ж так напалохаўся ўрад? Напэўна, таго, што ў рэшце рэшт адбылося. Як дакладваў у 1953 годзе ў сваёй сакрэтнай справаздачы упаўнаважаны Савета па справах Рускай праваслаўнай царквы па Маладзечанскай вобласці старшыням Саветаў па СССР і БССР, а таксама сакратарам ЦК КПБ, старшыні Маладзечанскага аблвыканкома, "...гэта ініцыятыва (пабудова помніка – аўт.) настаяцеля стварыла апошняму сярод духавенства вобласці, вернікаў і ў канцыляры архіепіскапа Піцірыма вялікую славу і аўтарытэт. Пагэтаму там, дзе Маеўскі прысутнічае на фэсце, там масавае наведванне прыхаджан". Упаўнаважанны дадаваў, што гэта не адзіная заслуга настаяцеля: "... з асабістых назіранняў за паводзінамі духавенства, я пераканаўся, што Маеўскі здольны ўнушаць вернікам рэлігійную прапаганду і наталяць іх духоўную смагу".

## Шлях да прызнання

Гісторыя гэта закончылася тым, што настаяцель Гарадзілаўскага прыхода знайшоў месца свайму помніку проста ў двары Гарадзілаўскай царквы. І тут ўжо ўлады перашкодзіць не маглі. Яны маглі толькі канстатаваць:

"Двор царквы ў в. Гарадзілава Маладзечанскага раёна цудоўна ўходжаны, уздоўж царкоўнай агароджы добрыя лаўкі, пасаджана многа кветак. На відным месцы ўзведзена шырокая мураваная сцяна шырынёй каля 4 метраў з крыжам наверсе, афарбавана ў блакітны колер, на якой карычневай фарбай намалявана мемарыяльная дошка са спісам савецкіх воінаў і партызан – жыхароў царкоўнага прыхода, загiблых у баях з фашысцкімі акупантамі. Пад спісам надпісы, якія заклікаюць помніць пра загінуўшых і ў малітвах памінаць іх. Спісы і надпісы прыгожа аформлены і прыцягваюць увагу моладзі, таксама як і прыгожа аздобленыя іншыя помнікі на могілках памерлых і пахаваных каля царквы".

Толькі ў 1968 годзе ў в. Гарадзілава Маладзечанскага раёна з'явіўся афіцыйны помнік 70 землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**Наталля ІВАНОВА,**
загадчыца аддзела выкарыстання дзяржаўнага занальнага архіва, Маладзечна.

■ ПАМЯЦЬ

# Даруйце нам, беларусы!

**Сёлета споўнілася сумная дата – 60 год з таго часу, калі ў вёсцы Хатынь было ўчынена самае страшнае злачынства часоў Вялікай Айчыннай вайны.**

За тры гады фашысцкай акупацыі ў Беларусі згарэла 619 вёсак разам з людзьмі. Не абмінула гэта бяда і Маладзечаншчыну. Сярод 25 вёсак, якія згарэлі падчас вайны, тры з іх знішчаныя з людзьмі. Гэта Асавец, Парадоўшчына і Сакаўшчына. Першыя дзве аднавіліся і жывуць. Сакаўшчына знікла назаўсёды. Цяпер на пагорку былой вёскі маўкліва стаіць абеліск ды паросшая наўкол зеляніна, якая пад ветрам схіляецца да зямлі і шэпча пра пакуты і боль... Я ж хачу расказаць пра іншае.

У свой час, калі я працавала на радыё, давялося браць інтэрв'ю ў кіраўніка адной нямецкай групы, якую прымаў дырэктар беларускай гімназіі **Барыс Вайцяхоўскі** і якая наведала мемарыяльны комплекс Хатынь. У размове з госцем я зазначыла, што мы, беларусы, не атаясамліваем паняцці немцы і фашысты, бо ад фашыстаў пакутавалі не толькі беларусы, чэхі, палякі і іншыя народы, але і самі немцы. Мы лічым, што зверствы чынілі менавіта фашысты. І ў адказ пачула (мой субяседнік гаварыў добра па-руску): "Не, гэта рабілі ў любым выпадку немцы і нам павінна быць за гэта сорамна".

Мільёны людзей наведалі Хатынь, якая, апранутая ў камень і бетон, расказвае людзям усяго свету пра жудасную трагедыю. У якасці гіда даводзілася мне працаваць у Хатыні з гасцямі з Нямеччыны. Вось і мінулым летам гэты мемарыял наведалі прадстаўнікі Эслінгена, якіх прымаў былы старшыня гарадскога Савета народных дэпутатаў **Мікалай Кудзін**.

Апошнім часам Мікалай Мікалаевіч узначальвае культурна-асветніцкае аб'яднанне дружбы "Сябрына", якое сам жа і стварыў і якое працуе ў стасунках сяброўскіх адносін з блізкім і далёкім замежжам. Дык вось прыгаданае аб'яднанне "Сябрына" мае шчыльныя адносіны з таварыствам Эслінгена "Усход-Захад". Яго ўзначальвае **Хельмут Цінвібель**. Нашы госці з Эслінгена з пачуццём жаху і болю ўспрымалі ўсё ўбачанае і пачутае ў Хатыні, ідучы ад адной часткі мемарыяла да другой.

І вось вечны агонь... Мінута маўчання... Кіраўнік групы Хельмут папрасіў слова... І мы пачулі маналог пакаяння. "Тое, што мы ўбачылі, балюча ўскалыхнула кожнага з нас! Нам сорамна за тое, што фашыст Дзерлівангер – грамадзянін горада Эслінгена. У 1945 годзе ён спаліў яўрэйскае гета ў Варшаве. Мы ад яго адракаемся! Хай такое ніколі больш не паўторыцца! Прабачце нам, беларусы!". Хельмут Цінвібель нізка пакланіўся.

Любоў КАРПОВІЧ.

■ АЎТАЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# Гісторыя «Победы»

**У 1943 годзе, пасля перамогі пад Сталінградам, у Горкім, на аўтазаводзе імя Молатава пачалася работа над новым аўтамабілем. І гэта не быў грузавік, або цягач для гармат, не была гэта і санітарная машына. Гэта была легкавушка. Па эскізах мастака Веніяміна Самойлава былі зробленыя гіпсавыя мадэлі будучага аўтамабіля ў маштабе 1:5, а па самай лепшай мадэлі – макет з чырвонага дрэва ў натуральную велічыню. Нават пасля бамбёжак 1943 года, калі ГАЗ быў на мяжы спынення, работа над машынай не спынялася.**

Першы прататып быў гатовы 6 лістапада 1944 года. Сталін агледаў новы аўтамабіль 19 чэрвеня 1944 года. Пасля яго адабрэння першыя партыі аўтамабіляў былі запушчаныя ў вытворчасць. Пасля выпуску першых 700 "Побед" дэфекты сталі выяўляцца адзін за адным. Канструкцыя глушыльніка была няўдалай, кузаў часам выгінаўся, садзіліся рэсоры. Мадэрнізацыя аўтамабіля праводзілася непасрэдна у часе вытворчасці. Лёс гэтай машыны поўны загадак. Да нашых дзён не дажыў ніводзін экземпляр аўтамабіляў легендарнай "першай серыі"...

## Другая спроба

Для савецкіх ваеначальнікаў, якія карысталіся "Победай" у Заходняй Еўропе, была на 5 сантыметраў паменшаная таўшчыня задняга сядзення – інакш яны не маглі ездзіць у машыне, не здымаючы папахі. Канструкцыя машыны была настолькі ўдалай, што многія замежныя фірмы сталі капіраваць нестандартныя тэхнічныя рашэнні, а англійская фірма "Standard" проста скапіравала яе.

У гэтай машыны ўпершыню былі рэалізаваныя тэхнічныя ноўшаствы, якія сталі стандартам у сучасных аўтамабілях. Іменна на "Победе" з'явіліся электрычныя ўказальнікі паваротаў і стоп–сігналы. Упершыню на машыне з'явіліся электрычныя шклоачышчальнікі. Ва ўсіх папярэдніх савецкіх аўтамабілях дворнікі былі механічнымі або пнеўматычнымі і хуткасць іх работы залежала ад хуткасці машыны. Вадзіцель і пасажыры атрымалі магчымасць ездзіць без валёнак і кажуха і не вазіць з сабой мяшэчак з соллю для праціркі шкла – у машыне была печка. На фоне такога трыумфу камфорту пра такую прыемную дробязь, як плафон асвятлення салона, можна ўжо і не гаварыць.



На дарогах нашага рэгіёна можна яшчэ сустрэць "Победу" і не адну. Некаторыя знаходзяць сабе месца на панадворках і ў гаражах проста як антыкварыят. Гэты здымак зроблены ў Заброддзі, што ў Вілейскім раёне на беразе Нарачанкі. Аўтамабіль знайшоў мастак Варыс Цітовіч. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Аднак навізна тэхнічных рашэнняў не была адзінай добрай якасцю "Победы". Гэта машына была сімвалам перамогі Чырвонай Арміі ў апошняй вайне. Акрамя таго, гэта была адна з першых, даступных (пры пэўных абмежаваннях) звычайнаму спажыўцу. На першым савецкім аўтасалоне ў Маскве можна было выбіраць паміж "М–401" (9 тысяч рублёў), "Победай" (16 тысяч) і вельмі дарагім ЗІМам (40 тысяч).

Менавіта гэтыя машыны можна было ўзяць напракат у першых пунктах пракату. А праблема рамонту аўтамабіля рашалася ў тыя часы вельмі проста – гаспадар машыны, якая забарахліла, адвозіў яе на аўтарамонтны завод і, заплаціўшы невялікую суму, атрымліваў магчымасць выбраць аўтамабіль, які спадабаўся з ужо адрамантаваных.

## І зноў «Победа»...

У 1955 годзе з'явілася новая мадыфікацыя "Победы". Яна была мадэрнізаваная настолькі, што ёй прысвоілі новае найменне – ГАЗ–20В. Знешне гэтая мадэль адрозніваецца зменenай радыятарнай рашоткай – яна стала выглядаць больш масіўна, у адпаведнасці з тэндэнцыямі аўтамабільнай моды таго часу. Змяніўся і знак аўтазавода на носе аўтамабіля. Ён перакачаваў з капота аўтамабіля на свабоднае месца над абліцоўкай радыятара. Унутры салона таксама адбыліся змяненні. У ім з'явілася нечуванае па тых часах стандартнае абсталяванне – радыёпрыёмнік. Такіх машын у нашыя дні захавалася больш за ўсё, і цяпер пад словам "Победа" звычайна разумеюць ГАЗ–20В.

## Для марнатраўцаў жыцця!

У тым самым 1955 годзе адбылася нечуваная падзея – у савецкім Саюзе была выпушчаная першая машына для адпачынку і забаў. Кабрыялет ва ўсе часы быў для савецкіх людзей прыкметай лёгкага жыцця і недастойных паводзін, несумяшчальных з маральным абліччам будаўніка камунізму. Таму, хаця ў краіне было шмат адкрытых машын – трафеяў другой сусветнай вайны, выпуск кабрыялета быў магчымы толькі ў гэтыя светлыя гады – часы хрушчоўскай "адлігі". Тады гэтая машына стала неад'емнай прыкметай прадстаўнікоў "залатой моладзі" – дзяцей партыйных работнікаў, буйных навукоўцаў і дзеячоў гандлю. Праз пятнаццаць год такой самай машынай стала "капейка" – першая мадэль "Жыгулёў", валоданне якой таксама стала прыкметай пэўнага сацыяльнага статусу. Але за знешняй ніякчэмнасцю аўтамабіля стаялі арыгінальныя тэхнічныя рашэнні. Складвалася толькі верхняя частка машыны, а бакавіны былі жорсткімі – канструктары баяліся аслабіць кузаў. Больш таго, у яго ўвялі дадатковыя элементы для яго ўмацавання. Нягледзячы на гэта, пацяжэла машына ненашмат – усяго на 35 кілаграмаў.

Брэзентавы верх дрэнна адбіўся на аэрадынаміцы – у параўнанні са звычайнай "Победай", якая валодала за кошт "збягаючага" даху неблагім аэрадынамічным супраціўленнем, супраціўленне узрасло. За кошт гэтага максімальная хуткасць машыны знізілася да 100 км/г, а расход паліва вырас да 11,5 л на 100 км.

## Нам не патрэбны Land Rover!

Прыйшоў час асваення цалінных земляў, і канструктары ГАЗа выканалі новы сацыяльны заказ – скамбінавалі "Победу" з ужо выпускаўшыміся (і які меў той самы рухавік) ГАЗ-69.

Такім чынам на сцэну выйшаў першы ў свеце камфартабельны ўседарожнік. Ужо тады, на зайздрасць Форду" і "Джэнерал Мотарз", аўтамабіль "для сяла" быў не горшы, чым прадстаўнічыя аўтамабілі. Цяпер радавы старшыня калгаса ездзіў з такім самым камфортам, што і вышэйшыя савецкія ваеначальнікі. Дзякуючы даступнасці запчастак ад "казла" ГАЗ–69б такія машыны да гэтага часу жывуць у вёсках на прасторах былога СССР, займаючыся цяжкай сялянскай працай. Так што, прыводзячы позіркам «Mitsubishi Pajero», «Ford Expedition» або «Land Rover Discovery», успомніце, што ўседарожнікі (у сучасным сэнсе гэтага слова) у Расіі пачыналіся з М-72.

## Што далей?

На гэтым гісторыя машыны не скончылася. Яшчэ да 1971 года ў Польшчы па савецкай ліцэнзіі выпускалі крыху змененую "Победу" пад назвай "Варшава". А па чутках, нават у васьмідзесятыя гады кітайскія таварышы выпускалі "Победы". Для сябе. Вельмі машына харошая...

**Марцін ВАЙЦЯХОЎСКІ.**

## Тэхнічныя характарыстыкі аўтамабіля ГАЗ–М20 «Победа»

| | |
|---|---|
| **Кузаў** | Бязрамны, 4х2; 5-месны 4-дзверны седан, 4-дзверны кабрыялет, пікап, (4х4 ГАЗ-М72) |
| **Рухавік** | 50к.с./3600аб/мн, 4-цыліндры, 4-тактны, 2112 куб.см |
| **Габарыты**, мм | даўжыня 4665, шырыня 1695, вышыня 1590 |
| **База, дарожны прасвет**, мм | 2700, 210 (пярэдняя вось), 200 (задняя вось) |
| **Каляіна пярэдніх (задніх) колаў**, мм | 1364 (1362) |
| **Радыус павароту**, м | 6,3 |
| **Дыяметр цыліндра/ход поршня**, мм | 82/100 |
| **Ступень сціскання** | 6,2:1 |
| **Паветраны фільтр** | Масляны з глушыльнікам шуму ўсмоктвання |
| **Парадак работы цыліндраў** | 1-2-4-3 |
| **Счапленне** | Аднадыскавае, сухое, паўцэнтрабежнае |
| **Каробка перадач** | 3-ступенчатая |

| | |
|---|---|
| **Перадатачныя лікі каробкі перадач** | I – 2,820, II – 1,604, III – 1.00, задняя – 3,383 |
| **Перадатачны лік і тып галоўнай перадачы** | 1946-1948 - 4,7, з 1948 - 5,125, канічная адзінарная са спіральнымі зубамі |
| **Пярэдняя падвеска** | Незалежная, рычажная, на вітых цыліндрычных спружынах, якія працуюць з двума гідраамартызатарамі |
| **Задняя падвеска** | Дзве паўэлептычныя спружыны, якія працуюць сумесна з гідраамартызатарамі |
| **Нажны тормаз** | Гідраўлічны калодачны на ўсе колы |
| **Вага**, кг | 1350 (запраўлены) |
| **Максімальная хуткасць**, км/г | 105 |
| **Шыны** | 6.00 – 16 цаляў |
| **Ціск паветра ў шынах**, атм. | 2 (пярэднія і заднія) |
| **Паліўны бак**, ёмістасць, л | 55 |
| **Расход паліва**, л/100 км | 13,5 |
| **Сістэма ахалоджвання**, л | 9,5 |

■ НАША МАРКА

# «Зубр» – гарантыя надзейнасці

**Пасля таго, як Беларусь стала незалежнай дзяржавай, высветлілася, што ўсе савецкія заводы па вырабе акумулятараў апынуліся за межамі нашай рэспублікі. Да канца 1990–х гадоў патрэбнасці айчыннага рынка задавальняліся замежнымі акумулятарамі.**

Калі кагосьці такое становішча і задавальняла, то толькі не беларускіх аўтамабілістаў. Тая частка прадукцыі, якая выраблялася з выкарыстаннем апошніх дасягненняў тэхналогіі, прапаноўваліся па высокіх, часта – вельмі высокіх цэнах. Тое, што большасці нашых аўтаўладальнікаў было па кішэні, на жаль, не заўсёды адрознівалася высокай якасцю і надзейнасцю. Пералом наступіў у маі 2000 года, калі на арганізаваным заводзе ў Пінску СП "Палескія акумулятары" пачаўся выпуск першых беларускіх акумулятарных батарэяў "Зубр".

Цэлы год спатрэбіўся работнікам СП на падрыхтоўку вытворчасці і шліфоўку тэхналагічнага працэса. Але задача




стварыць акумулятар еўрапейскай якасці па даступнай для айчыннага спажыўца цане, якую паставіла перад сабой СП "Палескія акумулятары", таго каштавала. Пінскі завод аснасцілі сучасным амерыканскім і нямецкім абсталяваннем, кампанія CENTRA S.A. (еўрапейскае аддзяленне канцэрна EXIDE) – як саўладальнік СП – прадаставіла тэхналогіі выпуска батарэяў CENTRA, прызнаных у 2000 годзе лепшымі еўрапейскімі акумулятарамі, – і працэс пайшоў.

Сёння на заводзе "Палескія акумулятары" выпускаюцца дзве версіі акумулятарных батарэяў – "Зубр Standard" і "Зубр Calcium".

Магістральны накірунак развіцця акумулятарнай галіны – паўсюднае адмаўленне ад сурмы, якая шырока ўжывалася ў ранейшыя часы ў якасці дабаўкі, якая павышала ліцейныя якасці свінца. На жаль, сурма паскарае карозію акумулятарных пласцін, спрыяе моцнаму выпарэнню вады з электраліта, выклікае хуткі самаразрад акумулятара. Каб павялічыць тэрмін службы акумулятара, пры вытворчасці "Зубр Standard" выкарыстоўваецца гібрыдна–кальцыевая тэхналогія, якая дазваляе знізіць утрыманне сурмы да мінімуму. У "Зубр Calcium", дзе выкарыстоўваецца кальцыевая тэхналогія, сурма ўвогуле адсутнічае. Асноўны матэрыял – свінец высокай ступені ачысткі, які паступае па імпарце.

Выраб рашотак "Зубраў" грунтуецца на тэхналогіі Expanded Metal – халодным перфарыраванні ліста загатоўкі з наступнай расцяжкай. Трэба сказаць, што кальцыевымі тэхналогіямі і метадам Expanded Metal да нядаўняга часу карысталіся толькі сусветныя акумулятарныя лідэры. Выкарыстанне іх – паказчык высокага ўзроўню вытворчага працэсу, які прыняты на СП "Палескія акумулятары". Пры метадзе Expanded Metal сыравіна не падлягае тэрмічнаму ўздзеянню, гатовая рашотка адрозніваецца высокай стабільнасцю электрахімічных параметраў, мае павялічаную плошчу кантакта з актыўнай масай і лепш утрымлівае яе часцінкі у сваіх ячэйках, падоўжваючы тым самым рэсурс батарэі.

"Зубры" запраўляюцца электралітам непасрэдна на вытворчасці; пасля кожнай тэхналагічнай аперацыі праводзіцца прамежкавы кантроль якасці; на канчатковай стадыі – акумулятары праходзяць працэс мяккай зарадкі электрычным токам.

Цяжка знайсці канкурэнтаў, якія здольныя аспрэчыць першынство акумулятараў "Зубр" на беларускім рынку. Па–першае, нават батарэі расійскіх заводаў, не кажучы ўжо аб прадукцыі заходніх кампаній, прайграюць "Зубрам" па кошце. Па–другое, досвед эксплуатацыі паказвае, што па надзейнасці беларускія акумулятары нічым не саступаюць замежным аналагам. Па–трэцяе, ужо сёння мадэльны рад "Зуброў" уключае батарэі ёмістасцю ад 55 да 190 Ампер на гадзіну. Гэта дазваляе задаволіць патрэбнасці як прыватных аўтаўладальнікаў, так і арганізацый, якія эксплуатуюць грузавую, спецыяльную і сельскагаспадарчую тэхніку. Эксклюзіўна прадстаўляць акумулятары "Зубр" даручана "Першай акумулятарнай кампаніі", якая забяспечвае гарантыйнае і пасльгарантыйнае абслугоўванне акумулятараў, а таксама мае самую шырокую сетку прадстаўніцтваў і сервісных цэнтраў на тэрыторыі Беларусі і Расіі.

**Больш падрабязна аб прадукцыі СП "Палескія акумулятары" можна знайсці на сайце www.1ak.ru. Тэлефон філіяла "Першай акумулятарнай кампаніі" у Маладзечне 6–30–63.**

**Сяргей ІЛЫН.**

■ ІМЁНЫ

# Рудольф Дызель

Бацька Рудольфа Дызеля, немца па паходжанні, валодаў маленькай пераплётнай майстэрняй у Парыжы. У вялікай і дружнай сям'і Дызеляў кожны меў свае абавязкі і дапамагаў у рабоце бацьку. Дызелі жылі мірна і добра да 1871 года, калі пачалася франка–пруская вайна і бацька вырашыў з'ехаць з сям'ёй у Англію.

Жыццё эмігрантаў у Англіі было цяжкім. Работу здаралася знайсці не заўсёды. І трынаццацігадовы Рудольф без грошай, спадзяючыся толькі на сябе і сваю кемлівасць, пераправіўся на караблі ў Германію. Тут ён скончыў школу і паступіў у Політэхнічны інстытут.

Стаўшы інжынерам, Дызель увесь свой вольны час аддаваў вынаходніцтву высокай эканамічнасці. Але свабоднага часу заставалася мала: трэба было зарабляць грошы, каб дапамагаць сям'і, якая вярнулася з Англіі на радзіму. Аднак Дызель не здаваўся. І, нарэшце, доўгія і пакутлівыя пошукі увянчаліся поспехам.

У 1892 годзе ён атрымаў патэнт на вынайдзены рухавік унутранага згарання. Цяпер яго трэба было пабудаваць.

Рухавік, усім сёння добра вядомы, названы імем яго вынаходніка, быў пабудаваны ўпершыню на Аўгсбургскім заводзе у 1897 годзе.

Рухавік Дызеля чатырохтактны. Вынаходнік устанавіў, што КПД рухавіка ўнутранага згарання павышаецца ад павелічэння ступені сціскання гаручай сумесі. Але моцна сціскаць гаручую сумесь нельга, таму што тады павышаецца ціск і тэмпература і сумесь самаўзгараецца раней часу. Дызель вырашыў сціскаць не гаручую сумесь, а чыстае паветра. Пад канец гэтага працэса у цыліндр паступова пад моцным ціскам упырсківаецца вадкае паліва. З–за таго, што тэмпература сціснутага паветра дасягала 600–650 градусаў па Цэльсіі, паліва самаўзгаралася, і газы, пашыраючыся, рухалі поршань.


Рудольф Дызель. 1858–1913

Такім чынам Дызелю ўдалося значна павысіць КПД рухавіка. Да таго ж тут не патрэбная была сістэма запальвання.

Да дызеля прыйшла слава. Яго рухавік унутранага запальвання знаходзіў усё новыя прымяненні. Многія краіны запрашалі да сябе вынаходніка. У 1910 годзе Дызеля з захапленнем сустракала Расія, крыху пазней – Англія.

Але на радзіме вынаходніка абсыпалі бруднымі абразамі. Знайшліся людзі, якія даказвалі, што яго вынаходніцтва не новае, што ён карыстаецца незаслужанай славай.

Дызель цяжка перажываў цкаванне, стаў панурым, шмат хварэў.

Абставіны смерці Дызеля трагічныя. Вераснёвым днём 1913 года ён сеў у параход, які кіраваў у Лондан. Наранiцу Дызеля не знайшлі ў каюце. Ён бясследна знік.

Кажуць, праз некалькі дзён рыбакі знайшлі ў моры ў час шторму цела чалавека. Так скончыў сваё жыццё таленавіты вынаходнік, які абессмяроцiў сваё імя яшчэ пры жыцці.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Запаведзі «начнога» вадзілы

**Калі аўтамабіль не мае аўтамабільнай рэгуліроўкі фар або "разумнай" падвескі, якая "сочыць" за становішчам кузава над дарогай, перад начной паездкай адрэгулюйце святло самастойна. Пры адным пасажыры на заднім сядзенні пастаўце рэгулятар гідракарэктара на лічбу "1". Калі там уладкаваліся двое – на "2". Пры загружаным багажніку выстаўляйце "3".**

Не асляпляйце вадзіцеляў спадарожных машын праз люстэркі. Выключайце дальняе святло, калі садзіцеся на хвост камусьці.

**Раз на месяц мыйце яго да крыштальнай чысціні з абодвух бакоў, масляныя разводы і лёгкі налёт бруду, якія абсалютна нябачныя ўдзень, ноччу пераламляюць святло сустрэчных машын у асляпляльныя "туманнасці". Справа часам даходзіць да поўнай страты бачнасці.**

Уключайце бліжняе святло яшчэ да надыходу ночы. Небяспечны для сябе і іншых той, хто едзе змяркання на неасветленай машыне. Аўтамабіль не кватэра. Эканоміць у ім электрычнасць глупота.

**Хай сабе вы і ваш калега перайшлі на бліжняе святло. Усё адно на вузкай дарозе кароткага асляплення не пазбегнуць. Долю імгнення вы едзеце ўсляпую. Таму перад раз'ездам перанясіце нагу з газа на тормаз. Пры раптоўнай небяспецы гэтая мера зменшыць час рэакцыі на тармажэнне.**

Калі вам насустрач рухаецца адна фара, гэта можа быць што заўгодна: нармальны матацыкліст, ненармальны аўтамабіліст. І адну–адзіную фару будзем лічыць яго ПРАВАЙ фарай. Таму падрыхтуемся збочыць.

**Нельга па–іншым назваць тых, хто пакідае дальняе святло пры раз'ездзе з сустрэчным. Размiноўваючыся з хамам, глядзіце чуць убок, на абочыну. Так пазбегнеце поўнага асляплення нават ад дальняга святла (або заплюшчыце адно вока).**

Пад'язджаючы да пад'ёма, памятайце, што калі зверху, на вяршыні ўзгорка, з'явіцца сустрэчны аўтамабіль, ён непазбежна аслепіць вас нават бліжнім святлом (правільна адрэгуляваныя фары свецяць крыху ўніз). Будзьце да гэтага падрыхтаваныя. А перад спускамі улічвайце, што вы аналагічным чынам слепіце іншых вадзіцеляў.

**Калі ноччу едзеце па незнаёмай дарозе, кожны паварот успрымайце як небяспечны. Ноч скарачае вугал зроку і дакладнасць успрынццця. Віраж можа аказацца больш крутым, з горшым пакрыццём, са старой пакрышкай, якая выкацілася на сярэдзіну... Карацей, хуткасць павінна быць такой, каб пасля не хапацца за галаў: "І навошта я гнаў?"**

Сцеражыцеся начных грузавікоў. Іх сапраўдныя памеры не заўсёды супадаюць з пазначанымі габарытнымі ліхтарамі. Грузавік на пару метраў можа "падаўжаць" або нават "пашыраць" які небудзь паўтаратонны швелер, які тырчыць з–за бартоў.

**Далёкія продкі чалавека не былі начнымі жывёламі. Ноч – чужы для нас асяродак. Асабліва гэта тычыцца зроку. У далняй паездцы можна трымаць пад языком тонкі скрылёк лімона, каб павысіць вастрыню зрока. Такі прыём карысталі лётчыкі Другой сусветнай вайны пры начных бамбардзіроўках.**

**Алег МАЙБАРАДА.**

# Атрымай падарункі

**высокаякаснае маторнае і прамывачнае масла ТНК**

**Чарговы конкурс у «Рэгіянальнай газеце» дазволіць вам атрымаць падарункі маладзечанскага філіяла Першай акумулятарнай кампаніі (Маладзечна, вул Гарадоцкая, 104, 101, тэл. 63063).**

## Адкажыце на наша пытанне

У ліпені 1954 года у Польшчы пачалося будаўніцтва аўтамабільнага завода FSO. Палякі меркавалі супрацоўнічаць са сваім перадваенным партнёрам – італьянскім Фіятам. Быў нават падпісаны ліцэнзійны дагавор. На FSO збіраліся выпускаць Фіят–508, а затым – Фіят–1100. Пачаліся будаўнічыя работы. Але з–за Буга палякам пагрозліва паківалі пальцам і дагавор з італьянцамі быў разарваны, затое падпісаны новы з Саветамі.

Увага, пытанне: **як назвалі аўтамабіль, які пачалі выпускаць на аўтазаводзе FSO па савецкай ліцэнзіі і першы экземпляр якога сышоў з канвеера 6 лістапада 1951 года ў 14.00 па варшаўскім часе?**

Сярод тых, хто правільна адкажа на наша пытанне і дашле свой адказ на адрас рэдакцыі на паштоўцы з паметкай "аўта-мота", будуць разыграныя падарункі 4-літровыя каністры з сінтэтычным маторным і прамывачным маслам ТНК, а таксама талоны бясплатнага тэсціравання АКБ і праверку генератара і стартэра. Вынікі будуць аб'яўленыя праз месяц у чарговым выпуску "Аўта–мота".

■ МІНУЛАЕ

## Бой у Калодзіне

**МЯДЗЕЛ. Вёска Калодзіна знаходзіцца на поўдзень ад Нарачы. Яе жыхары спрадвеку займаліся земляробствам, ездзілі на заработкі пры Польшчы ў Латвію, Эстонію.**

У час вайны жыхары Калодзіна хавалі некалькі яўрэйскіх сем'яў, якія ўцяклі з Кабыльніка, калі ім пагражаў расстрэл. Дапамагалі сяляне і народным мсціўцам. Даведаліся пра гэта гітлераўцы і вырашылі напасці на вёску, спаліць яе, расстраляць даваенных дэпутатаў, актывістаў. Заадно разграміць партызанскі атрад імя Суворава, які размяшчаўся непадалёку адсюль, на хутары Гаць.

16 студзеня 1943 года 300 нямецкіх салдат, афіцэраў, паліцэйскіх з гарнізона Свір дабраліся да вёскі Мокрыца і там заначавалі. Даведаліся пра гэта партызаны і выставілі ў суседняе Калодзіна заслон з пяці чалавек, каб папярэдзіць раптоўны напад ворага.

17 студзеня 1943 года а 10-й гадзіне раніцы да вёскі прыблізіліся фашысты і адкрылі агонь па хатах, па людзях, якія ўцякалі. Партызаны сталі страляць у адказ. Быў забіты кулямётчык Адольф Будзько. Параніла маладога партызана Яўгена Брадовіча. Сцякаючы крывёю, ён дапоўз да склепа ля адной хаты і там схаваўся. Па крывавым следзе немцы выявілі, дзе знаходзіцца партызан, і прапанавалі яму здацца. Яўген Брадовіч стаў адстрэльвацца. Тады ў склеп паляцела граната. Яе падхапіў партызан і выкінуў назад. Граната ўзарвалася і параніла немцаў. Пасля гэтага ў склеп сталі страляць і кідаць гранаты. Партызан загінуў.

Жыхароў Калодзіна немцы сагналі на ўсходні ўскрай вёскі і загадалі легчы на снег. Як толькі з боку Гаці паказалася партызанская разведка, немцы прымусілі людзей устаць. Тым самым хаваліся за людской сцяной. Партызаны атрада імя Суворава на чале са сваім камандзірам Фёдарам Маркавым не сталі наступаць у гэтым месцы, а пачалі абыходзіць населены пункт. Баючыся, што будзе адрэзаны адыход, вораг кінуўся наўцёкі, забіўшы 7 жыхароў Калодзіна і спаліўшы некалькі хат.

Партызаны праследавалі адступаючых гітлераўцаў. Было забіта 26 салдат і паліцэйскіх. Вёску Калодзіна акупанты поўнасцю спалілі ў верасні 1943 года. Ураджэнец Калодзіна Яўген Шабан чуў ад маці, аднавяскоўцаў пра ўсе падрабязнасці трагедыі, нязроўны бой. Стаўшы паэтам, драматургам, Яўген Шабан напісаў паэму аб тых падзеях "Чырвоныя сумёты".

Кожны год у дзень трагедыі збіраюцца жыхары Калодзіна, каб ушанаваць памяць сваіх загінуўшых землякоў. Прыязджалі сюды з кветкамі родныя Яўгена Брадовіча і Адольфа Будзько. Сёлета, у 60-ю гадавіну трагедыі ў вёсцы Калодзіна таксама прайшоў сход жыхароў і жалобны мітынг.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ ПАРТРЭТ

# Мінёр-падрыўнік

## У вайну Ніна Палянская з Радашкавічаў была мінёрам

**Жыве ў мястэчку Радашкавічы сціплая кабета, годная, спакойная. Амаль кожны дзень ходзіць па Радашкавічах, заходзіць у крамы, каб штосьці купіць з яды для мужа-калекі, сабраць узносы з сяброў Беларускага таварыства інвалідаў.**

Пры выпадку сустракаецца з моладдзю, прыгадвае сваю маладосць. Суседзі з Полацкай вуліцы кажуць: нідзе не вытыркалася і зорак з неба не хапала. Ведаюць толькі тое, што Ніна Аляксееўна Палянская ўвесь час працавала на пасадзе галоўнага бухгалтара на заводзе "Белмастацкераміка" і ездзіць кожны год на сустрэчы са сваімі аднапалчанамі ў Санкт-Пецярбург. Бадай, і ўсё, што могуць сказаць гэтыя людзі, калі не лічыць нейкіх там навін сямейнага кшталту. Пэўна ж, нікому і ў галаву не прыходзіла, што гэтая невысокая, крыху прысадзістая, з добразычлівым позіркам шэрых вачэй на авальным твары жанчына хадзіла ў маладосці поруч са смерцю па той небяспечнай мяжы, з якой нельга было збочыць ні на крок. Вызначаная мінашукальнікам сцяжынка была яе паратункам. Нехта становіцца ніякавата, не верыцца, што такія мужныя, смелыя і рызыкоўныя дзяўчаты займаліся вельмі мужчынскай справай.



Ніна Палянская з Радашкавіч успамінае падзеі другой сусветнай вайны, ад якой засталося толькі некалькі здымкаў. Адзін з іх – у руках Ніны Аляксееўны.

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

### Мара збылася

Тыя суровыя гады вайны пакінулі свой адбітак не толькі на знешнім абліччы, паводзінах, але і на духоўным стане кабеты. Яна часта бывае задумлівай. Думкі вяртаюцца да холаду і голаду, да цяжкіх дзён выпрабаванняў вайны, да вясёлага, бестурботнага дзяцінства, да вёскі Мельніца, што ў Ноўгарадскай вобласці, да бацькі каваля-чыгуначніка, да тых маляўнічых мясцінаў, лясных абшараў, якія рэхам адгукнуліся, калі пачулі крык немаўляці ў 1925 годзе. Прыгадалася станцыя Углоўка, адкуль першы раз пераступіла парог школы. Піянерка 4-га класа марыла трапіць у горад Леніна. Не адно апавяданне прачытала пра сям'ю Ульянавых, хацелася пабыць у музеях, Смольным. Яе мара здзейснілася: сям'я Мінаевых пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў горад на Няве.

Ніна Аляксееўна Мінаева, нейк глыбока ўздыхнуўшы, задуменны позірк вачэй скіравала дзесьці далёка. Глухаваты голас ліўся самотна, яна згадвала сваё дзяцінства, як палын горкае, юнацтва ваеннага ліхалецця. І разам з тым адчуваўся высокі гонар за сваю Айчыну, за тое, што ёсць і яе доля ў барацьбе з ненавісным ворагам.

Пасля заканчэння 8 класаў збіралася паехаць на радзіму бацькоў, пабачыць дарагія мясціны, прайсціся па тых сцежках дзяцінства, абняць квяцістую бярозку, якая прыбралася ў святочную хустку каля самага сіняга возера, прытуліцца да дрэва, паслухаць дзіўную музыку купчастай бярозы... Прайсціся па вуліцы роднай Мельніцы, згадаць сваю калыску, сваю вясну. Але мары засталіся марамі... Неба пакрылася чорнымі ніздобрымі хмарамі, ударыў пярун, усчалася жудасная навальніца... Зямля задрыжэла, запылаў вялікі горад.

### Вайна

Шаснаццацігадовая Ніна разам з сяброўкамі **Люсяй Напалінай, Марыяй Бяловай, Люсяй Багданавай** капалі пад Лугай супрацьтанкавыя рвы, скідалі з дахаў запальныя бомбы. Працавалі ад шасці раніцы да шасці вечара. Не чуваць было песень, звонкія дзявочыя галасы ўсё радзей парушалі трывожную цішыню. Галадалі, вочы зліпаліся ад сну... Гуло ў галаве ад выбухаў бомбаў і снарадаў. Вораг імкнуўся хутчэй заняць горад, але ён жыў, не скарыўся.

У жніўні 1941 года маці з дзецьмі пакінула Ленінград. Яе муж Аляксей дапамог уладкаваць сваіх родных у таварны цягнік, а сам застаўся. Сям'я пераехала ў Молатаўскую вобласць у вёску Мачына. У калгасе Мінаевы працавалі ад усходу да заходу сонца, без капейкі, ахвярна. І жалі, і малацілі, пяклі хлеб па хатах, капалі бульбу, адсылалі ўсё гэта на фронт. Ніхто не скардзіўся на лёс, бо ведаў: на фронце яшчэ цяжэй. Дзяўчаты добраахвотна запісваліся ў шпіталі, іншыя рваліся, былі не супраць, каб узяць зброю ў рукі.

### На фронце

Настырная Ніна Мінаева дамаглася свайго: 28 лютага 1943 года атрымала позву з ваенкамата. Сабраліся амаль усе яе сяброўкі-ленінградкі. Іх накіравалі на Волхаўскі фронт у якасці рабочых на аэрадроме. А там гора сербанулі напоўніцу. Як жартавала Ніна Аляксееўна, "было не да хлопцаў"; калі дабіраліся да нараў, з ног валіліся.

— Ведаеце, калі нам выдалі форму, дык я схавалася ў тых салдацкіх кальсонах, а кашуля вісела на мне, як на тым пудзіле. Неяк увязалася матузом, стала ў строй. Грымнуў рогат, а мне брыдка да слёз. Капітан строга загадаў падагнаць форму на маю фігуру.

Дзяўчаты прынялі прысягу, іх павезлі на станцыю Небалычы. Там вучылі рызыкоўнаму і небяспечнаму майстэрству. Ленінградкі атрымалі суровую прафесію мінёра-падрыўніка.

Першыя дні сэрца млела ад страху, калі размініравалі ўчастак смертаноснага поля, трэсліся рукі. Вывінчвалі ўзрывальнікі, вывозілі міны ў бязлюдныя месца. Былі і трагічныя выпадкі. Марыя Бялова знячэўку наступіла на міну, ёй адарвала ўсю ступню.

У той марозны дзень на правым беразе Волхава не пашанцавала мінёру Ніне: яна адмарозіла пальцы на руках. У рукавіцах з голымі пальцамі размініравала, інакш нельга было. Такая ўжо далікатная, тонкая работа... Своеасаблівая аперацыя на жывым арганізме, з рызыкай смерці для таго, хто праводзіць гэтую адказную справу... Пасля мінёраў ішла тэхніка, пяхота. Ніна Мінаева атрымала тады медаль "За баявыя заслугі", нагрудны знак "Выдатны мінёр".

### "Сувязная"

Ніна Аляксееўна ўсміхнулася, у вачах запаліліся вясёлыя агеньчыкі.

— Я ж і сувязная была. Усе мае сяброўкі, рослыя, відныя і фігуры ладныя, заглядаліся на лётчыкаў. Тыя таксама кідалі вочы на іх. А на мяне, шчуплую, малую, хударлявую, не вельмі заглядаліся. Дык мае сяброўкі пісалі лётчыкам пісьмы, а я была паштальёнам: адносіла дзявочыя запіскі іхнім кавалерам, а тыя перадавалі любоўныя пасланні сваім каханкам. Такім чынам мяне празвалі сувязной. Я ж за хлопцамі "не страляла", а вось з вінтоўкі ў самую дзесятку цэліла.

Наступіў 1944 год. Ленінград у руінах, але выжыў. Абаронцы-змагары ўздыхнулі з палёгкай: блакада была знята. А Ніна Аляксееўна са сваімі сяброўкамі працавала на мінных палях Ноўгарадскай вобласці. Дайшлі мінёры да Калінінграда, вызвалялі Латвію, спатрэбіліся спрактыкаваныя, смелыя рукі дзяўчат на Волхаўскім, Ленінградскім, Прыбалтыйскім франтах.

Трэба адзначыць і тое, што мінёр-выдатніца 14-й паветранай арміі 100-га батальёна была актывісткай, камсоргам роты, выпускала насценную газету, удзельнічала ў самадзейнасці, мела прыгожы голас. Словам, прырода талентам яе не пакрыўдзіла.

### Вяртанне ў Беларусь

Закончылася вайна. Перажыла асабістае гора і Ніна: яе бацька загінуў у 1942 годзе ў Ленінградзе. У 1947 годзе брат Сяргей, які партызаніў на Беларусі і застаўся там жыць, запрасіў да сябе. Тут былы мінёр-падрыўнік спаткала сваю долю, выйшла замуж. Нарадзіла дзвюх дачушак Таню і Наташу, прычакала ўнукаў. Дзеці пайшлі ў школу, маці таксама доўжыла сваю вучобу ў Маскоўскім фінансавым інстытуце. Яе працоўная біяграфія звязаная з ААТ "Белмастацкераміка". Тут яна працавала галоўным бухгалтарам, мела сваіх вучняў. Яе пераемніца **Леанора Кульбіцкая** выказалася так:

— Гэта была мая настаўніца не толькі ў бухгалтарскай справе. Яна навучыла многаму, бо, як маці, дзялілася сваім жыццёвым вопытам.

Ніна Аляксееўна часта заходзіць, як яна кажа, "на свой родны завод". Тут яна пакінула часцінку свайго сэрца, стаяла ля вытокаў стварэння вядомага за межамі Беларусі завода, які славіцца якасцай і прыгожай прадукцыяй. Мае ганаровыя граматы розных узроўняў, юбілейныя медалі, ордэн Айчыннай вайны. Ветэран вайны і працы зрабіла шмат, каб сягоння пачнадкі жылі мірна, спакойна, без страху.

**Сымон БЕЛЫ,**
**заслужаны настаўнік РБ, пісьменнік.**

■ БАСКЕТБОЛ

# Смаргонкі на вышыні

**СМАРГОНЬ. Зборная краіны ва ўзросце 1987 г.н. ездзіла ў Венгрыю на паўфінальны турнір да чэмпіянату Еўропы.**

Адной з лідэраў сябе праявіла **Алена Рынкевіч**, якая пачынала заняткі баскетболам у смаргонскай СДЮШАР (трэнер **Жанна Грэхава**). Па дзейнічала як атакуючы абаронца, гэтак званы "другі нумар". Па выніковасці ў нашай зборнай саступіла толькі Анастасіі Верамеенцы, якая, між іншым, мае досвед выступленняў за нацыянальную зборную. Зазначым, што дырэктар СДЮШАР Валерый Юрчанка быў на турніры ў якасці кіраўніка беларускай дэлегацыі.

Дзяўчаты паслядоўна перамаглі Ізраіль 87:55, Іспанію 71:70, Венгрыю 79:55 (Рынкевіч набрала 19 ачкоў), Польшчу 71:49 (Рынкевіч стала самай выніковай з 22 ачкамі), Чэхію 73:41.

Успомнім, беларускі летась перамаглі на кваліфікацыйным турніры ў Украіне. Зараз жа ў ліпені іх чакае фінальны турнір у Турцыі. Каманда другі год выступае ў дарослым чэмпіянаце краіны пад сцягамі мінскага рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерву, не рэдкасць для яе выезды на міжнародныя турніры. Працуюць з дзяўчатамі лепшыя айчынныя трэнеры Віктар Бялевіч і Сямён Халіпскі.

Фінішаваў чарговы сезон дзіцячай лігі.



Пераможца турніру дзіцячай баскетбольнай лігі каманда дзяўчат 1989 г.н. са Смаргонскай СДЮШАР.
Фота з сайта «Новой газеты Сморгони».

Смаргонскія дзяўчаты 1989 г.н. (трэнер Жана Грэхава), аб чыіх поспехах мы не раз пісалі, з буйнымі лікамі перамаглі сваіх саперніц на стадыі плэй-оф. У паўфінале яны ўзялі верх над камандай Брэсцкага раёна, а ў фінале пераўзышлі сталічны "Гарызонт".

У хлопцаў 1989 г.н. смаргонцы (трэнер **Вольга Савоська**) паўфінальную сустрэчу выйгралі ў асіпаўчан з розніцаў у тры ачкі, а ў фінале значна саступілі мінскаму клубу "Мэджык-Баскет". Па выніках турніру **Яўген Садоўскі** і **Дзяніс Баброўнікаў** занялі адпаведна 3 і 4 месцы ў спісе снайпераў.

Астатнія каманды рэгіёну (Валожын, 1988 г.н. і 1989 г.н.; Маладзечна, 1988 г.н.) свае выступленні не працягвалі. Галоўная прычына ў фінансавых цяжкасцях.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Ачко на выездзе

**4 мая. 3000 гледачоў. Суддзя Знайдзінскі. Гомель – Маладзечна-2000 0:0**

Склад: Сцепановіч – Маляўка (Крывіцкі, 79), Косак, Сысой – Макрыцкі (Лявончык, 68), Якубоўскі, Кабельскі, Сідарэнка (Альховік, 74), Пазняк – Альхавік, Кухлей

Галоўны трэнер "Маладзечна-2000" **Вячаслаў Акшаеў** палічыў галоўным вынікам матча тое, што футбалісты каманды паступова набываюць псіхалагічную ўпэўненасць, не зтушаваліся ў гасцявой сустрэчы з моцным праціўнікам. Выдзяляць у складзе ён нікога не стаў, бо на вынік працаваў кожны.

### Вынікі 3 тура

Дынама (Мн) – Белшына 1:3, Тарпеда (Ж) – Дарыда 3:1, Нафтан – Днепр-Трансмаш 2:1, Шахцёр – Дынама (Бр) 5:0, Славія – Нёман 1:0, Лакаматыў – Тарпеда-СКА 0:1, Зорка-ВА-БДУ – БАТЭ 0:3.

| | |
|---|---|
| 1.Тарпеда (Ж) | 9 |
| 2.Нафтан | 7 |
| 3.БАТЭ | 5 |
| 4.Тарпеда-СКА | 5 |
| 5.Гомель | 5 |
| 6.Шахцёр | 4 |
| 7.Дынама (Мн) | 4 |
| 8.Белшына | 4 |
| 9.Лакаматыў | 4 |
| 10.Маладзечна-2000 | 4 |
| 11.Днепр-Трансмаш | 3 |
| 12.Славія | 3 |
| 13.Дынама (Бр) | 3 |
| 14.Нёман | 2 |
| 15.Дарыда | 1 |
| 16.Зорка-ВА-БДУ | 1 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

## Заяўка «Забудовы» на гэты сезон

**Галоўны трэнер Канстанцін Харламаў, трэнер Аляксандр Гармаза, гуляючы трэнер Віталь Казяк.**

Урач Аляксандр Кравец, адміністратар Тамара Катлярэнка.

**Варатары** Ігар Кіркіж (1970), Аляксандр Мялюк (1973, 8/-7, 0), Аляксандр Мароз (1982, 16/-23, 1), Андрэй Вяль (1985, 1/-2, 1), **абаронцы** Віталь Казяк (1969, 16/2, 0), Валянцін Гружэўскі (1970), Сяргей Івашкевіч (1971, 86/0, 12), Алег Гулевіч (1976, 63/5, 0), Мікалай Татун (1980, 69/10, 0), Андрэй Байлукоў (1982, 10/1, 10), Максім Невядомскі (1983), Павел Пятроўскі (1983), Антон Савіцкі (1985, 21/1, 21), **паўабаронцы** Дзмітрый Вышынскі (1975), Тарас Шамшорык (1976), Сяргей Півавар (1978, 13/0, 0), Дзяніс Смірноў (1981, 12/0, 0), Віталь Абановіч (1982, 6/0, 0), Аляксей Антановіч (1982, 16/2, 0), Аляксандр Матусевіч (1983), Павел Смолік (1985, 10/0, 10), **нападаючыя** Дзмітрый Янель (1977, 7/2, 0), Аляксандр Грыхуцік (1980, 7/0, 0), Аляксандр Чарнель (1981, 48/11, 0), Максім Чабрыцкі (1985, 15/0, 15), Арцём Маргун (1985, 14/1, 14).

Капітан – Казяк, намеснікі – Вышынскі, Гулевіч.

Для старажылаў дадзена статыстыка выступленняў за "Забудову": матчы/галы за ўсе чэмпіянаты (1998-2002 годы) і матчы ў мінулым чэмпіянаце.

Каманду ўзмацнілі двое дасведчаных навічкоў. Варатара Кіркіжа помнім па выступленнях за маладзечанскі "Металург" у міні-футболе. Паўабаронца Шамшорык гуляў і ў Маладзечне ў вышэйшай лізе (1998-99 годы), і ў Смаргоні ў першай лізе (мінулы сезон).

Сёлета прымае ўдзел 12 каманд. Фаварытамі можна лічыць "Баранавічы", шклоўскі "Спартак-ВАР-Днепр" і нясвіжскі "Верас". Склад выканаўцаў дазваляе чысцінцам быць у верхняй палове табліцы. Не на многае прэтэндуе "Палессе" з Мазырскага раёна. З тройкі дэбютантаў "Левадзія" (Дзяржынск) і "Унікам" (Жлобін), напэўна, мацней за "Сож" (Крычаў).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

## Веснавыя старты, якія прынеслі поспех

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы ДЮСШ пры аддзеле адукацыі (старшы трэнер Леанід Арцем'еў) паспяхова выступілі ў абласным і рэспубліканскім кросе ў Мінску.**

На "вобласці" першыя месцы занялі **Вераніка Сянько** (1990-91 г.н., 1 км; вучыцца ў СШ№5), **Павел Скадорва** (1990-91, 1км; СШ№7), **Яўген Мучынскі** (1986-87, 3 км; СШ№3), **Павел Соніч** (1984-85, 4 км), **Руслан Садоўскі** (дарослыя, 6 км). Сянько і Скадорва, якія сталі лепшымі ў малодшай узроставай групе, атрымалі спецыяльныя ўзнагароды як самыя перспектыўныя.

Па заліку сярод школьнікаў (1986-90 г.н.) гараджане сталі першымі, прадстаўнікі раёна – чацвёртымі. Па агульным заліку гараджане таксама перамаглі, а "раёншчыкі" сярод раёнаў саступілі толькі старадарожцам.

На "рэспубліку" з Маладзечна ездзілі 30 чалавек. Сярод юнакоў на дыстанцыі 5 км перамог **Дзяніс Гіль** з Палачанаў, а Мучынскі заняў 2 месца. Сярод дарослых на дыстанцыі 8 км Садоўскі быў трэцім.

Выдатна нашы выступілі ў камандных спаборніцтвах. Сярод абласцей лепшай стала Міншчына, у складзе якой з 20 чалавек было 6 маладзечанцаў (яшчэ Соніч, Шынкевіч, Вашынка). Сярод гарадоў Маладзечна саступіла толькі Магілёву. Сярод спартыўных і звычайных сярэдніх школ перамаглі маладзечанскія ДЮСШ і СШ№3.

АСТРАВЕЦ. На першынства вобласці сярод спартыўных школ у Гродна вазіў сваіх выхаванцаў трэнер астравецкай ДЮСЩ **Анатоль Шаўчэнка**. Першыя месцы там занялі **Яраслаў Навашынскі** (кіданне дыску, 1988-89 г.н.) і **Павел Пляўго** (9-бор'е, 1988-89). Другое месца ў **Аляксандра Андралойца** (штурханне ядра, 1988-89). Добрыя сантыметры паказаў і **Андрэй Пазлевіч** (ядро, 1986-87).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ

25 красавіка. Маладзечна-2000 (дубль) – Белшына (дубль) 0:0.

27 красавіка. Забудова – Палессе (Мазырскі раён) 3:0 – тэхнічная перамога з-за няяўкі гасцей.

3 мая. Змена (Мінск) – Забудова 2:1 (1:1).

Галы: (44-пен), (66); Грыхуцік (19).

На 88-ай хвіліне выдалены Невядомскі (Забудова).

3 мая. Гомель (дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 4:0.

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

МАЛАДЗЕЧНА. На першынстве краіны сярод кадэтаў (1986-87 г.н.) удала выступілі выхаванцы ДЮСШ пры аддзеле па ФКСіТ. Першыя месцы па рахунку **Аляксандра Забагонскага** (58 кг) і **Рамана Сільвановіча** (76 кг). Другія месцы ў **Кірыла Жукоўскага** (50 кг) і **Сяргея Цара** (54 кг). Трэцяе месца заняў **Раман Багданёнак** (69 кг).

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

3 мая. 400 гледачоў. Суддзя Кульбакоў.

Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) – Смаргонь 1:0

Гол: Татарашвілі (52)

Склад: Шляхавой – Курак, Судзін, Іваноў, Кашкар – Мазалоўскі, Дзігілевіч, Карасёў, Грабаздзін, Кукалевіч (Дукса, 75) – Казлоў

У смаргонцаў было некалькі спрыяльных сітуацый, каб забіць гол, але яны іх не выкарысталі. Пасля аднаго з такіх момантаў сапернікі правялі выніковую контраатаку-"абаротку".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ІНВАСПОРТ

МАЛАДЗЕЧНА. **Руслан Вірынскі** са спартклуба "Прамень" ездзіў у Гродна на рэспубліканскія спаборніцтвы сярод "апорнікаў". Заняў там 1 месца ў армрэстлінгу і 2 месца ў настольным тэнісе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС

МЯДЗЕЛ. Каманда Крывіцкай дапаможнай школы-інтэрната заняла першае месца на абласных спаборніцтвах па настольным тэнісе сярод падобных устаноў. Асабліва вызначыліся 9-класнік **Сяргей Кушаль** і 5-класніца **Надзя Самарокава**. Перамаглі яны і ў асабістым заліку, пары і міксце.

**Алесь ВЫСОЦКІ**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

10 мая. МТЗ-РІПА (Мінск) – Смаргонь

10 мая. 16-00. Забудова – Сож (Крычаў)

11 мая. 17-00. Маладзечна-2000 (дубль) – Зорка-ВА-БДУ (Мінск, дубль)

+1=0-1 1-1. Летась 0:1 на выездзе і 1:0 (Грыхуцік) дома

12 мая. 17-00. Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ (Мінск)

+1=1-0 2-1. Летась 1:0 (Рапецкі) дома ў залік чужога поля і 1:1 (Сысой) дома

■ КОНКУРСЫ

# Зоркі Маладзечна-2003

**МАЛАДЗЕЧНА. 2 мая ў Палацы культуры прайшла V гарадская конкурсная праграма "Зоркі Маладзечна-2003".**

Сваё вакальнае і харэаграфічнае майстэрства паказалі навучэнцы дзіцячых музычных школ, эстрадных студый з горада і раёна. У красавіку прайшлі адборачныя туры харэаграфічны "Крыштальны чаравічак" і вакальны – "Сонечны праменьчык". Таму каля 800 гледачоў, што прыйшлі на конкурс "Зоркі Маладзечна" і ўбачылі найлепшых спевакоў і танцораў раёна.



**Удзельніца конкурсу "Зоркі Маладзечна-2003" Юля Абрамовіч.**
Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Спаборніцтвы праходзілі ў трох узроставых групах: малодшай, сярэдняй і старэйшай. Конкурсная праграма працягвалася больш за 12 гадзін і ўключала ў сябе беларускія і рускія народныя песні і танцы, расійскую папулярную музыку, аўтарскую песню, танцы народаў свету і авангадныя. Пераможцамі конкурсу ў вакале сталі **Паліна Александровіч, Марыя Ляшчынская, Таццяна Беланогая** і дуэты: **Лаўра і Карына Тамашэвічы**, а таксама **Таццяна Пішчака і Таццяна Бойка**. Лаўрэатамі ў харэаграфічнай частцы сталі клуб бальнага танца "Каскад" і ўзорны калектыў "Сонечны праменьчык". Астатнія атрымалі дыпломы ўдзельнікаў фестывалю.

У перапынку, калі журы вызначала пераможцаў, выступалі лаўрэаты ранейшых конкурсаў, якім удалося "завесці" гледачоў, што крыху стаміліся пасля доўгай конкурснай праграмы. Як адзначыла загадчыца аддзела культуры Маладзечанскага гарвыканкома **Надзея Сідарэнка**, ранейшыя пераможцы конкурсу "Зоркі Маладзечна-2003" станавіліся ўладальнікамі Гран-пры і лаўрэатамі міжнародных конкурсаў у Санкт-Пецярбурзе, Маскве, Адэсе і Вільні. А выхаванка эстраднай студыі пад кіраўніцтвам Алены Атрашкевіч летась узначальвала дзіцячае журы на "Славянскім базары ў Віцебску".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Апраўдала сваё імя

**МАЛАДЗЕЧНА. У гарадскім конкурсе юных журналістаў перамагла 9-класніца СШ №6 Вікторыя Якімовіч.**

Гэты конкурс ўжо другі па ліку. Яго арганізавалі цэнтр пазашкольнай работы сумесна з рэдакцыямі "Рэгіянальнай газеты" і "Маладзечанскай газеты". Удзельнікі конкурсу атрымалі заданне напісаць заметку на тэму "Гэта мяне хвалюе". Усяго на конкурс прыйшло каля 60 работ з 11 гарадскіх школ і цэнтра пазашкольнай работы. Лепшыя аўтары сабраліся за "круглым сталом" у рэдакцыі "РГ". Іх павіншавалі рэдактары газет – **Аляксандр Манцэвіч і Аляксандр Хазянін** і члены журы – аўтар гэтых радкоў і аглядальнік "Маладзечанскай газеты" **Іна Кандаурава**.

Пераможца конкурсу атрымала галоўны прыз – "Залатое пяро", 2 кнігі, фірменную майку "Рэгіянальнай газеты", дыплом I ступені. Сярэбраны прызёр – **Анастасія Нарэйка** і два бронзавыя – **Анастасія Сідаровіч** і **Алеся Бурак** – таксама не засталіся без падарункаў. Заахвочвальны прыз атрымала **Наталля Івашкевіч**.



**Пераможцы другога гарадскога конкурсу юных журналістаў "Залатое пяро" Анастасія Нарэйка, Вікторыя Якімовіч, Анастасія Сідаровіч і Наталля Івашкевіч.**
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Пераможца і прызёры ў дадатак да прызоў атрымалі квартальныя падпіскі на "РГ" і "Маладзечанскую газету". Як і "маці" конкурсу – кіраўнік студыі юных журналістаў пры цэнтры пазашкольнай работы **Наталля Шульжыцкая**. Работы ўдзельнікаў гарадскога конкурсу юных журналістаў "Залатое пяро" чытайце ў адным з наступных нумароў "РГ".

Вікторыя Якімовіч поўнасцю апраўдала сваё імя, якое азначае "перамога". Віка сказала, што гісторыя пра сляпога хлопчыка, якая прынесла ёй "Залатое пяро", не выдуманая. Такі хлопчык сапраўды ёсць.

Ці ёсць ў яе марах авалоданне журналісцкай прафесіяй, Вікторыя не адказала. Заўважыла толькі, што яшчэ рана вызначацца з будучай прафесіяй, трэба сярэднюю школу добра закончыць. Хацелася б пасля школы вучыцца ў БДУ. Цяпер ёй падабаюцца ўсе школьныя прадметы, але больш за іншыя любіць англійскую мову і матэматыку.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



**Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне Марыі Браніславаўне Бераснёвай і яе сям'і ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: **Астравец – 01591, Ашмяны – 01593, Валожын – 01772, Вілейка – 01771, Маладзечна – 01773, Мінск – 017, Мядзел – 01797, Смаргонь – 01592**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што для вас значыць 9 Мая?



**Сымон Белы, пісьменнік, Радашкавічы:**

– Дзень памяці і смутку. Многа ў вайну палягло людзей, якія ні ў чым не вінаватыя. Лічу, што адзначаць гэты дзень трэба, але не пампезна. Спяваць па памёрлых і забітых не прынята.



**Ніна Грывіцкая, дворнік, Маладзечна:**

– Гэта дзень нараджэння майго пляменніка. Паеду да яго ў Сінькі, што на Смаргоншчыне. Спачатку павіншуем яго, а потым успамінаем вайну, як там ваявалі мае бацькі.



**Павел Мароз, ветэран вайны, Радашкавічы:**

– Свята. У гэты дзень сустракаюся з ветэранамі, памінаем загінуўшых. А пасля абавязкова выпіваю чарачку ў іх памяць.



**Святлана Камінская, навучэнка гандлёва-эканамічнага каледжа, Маладзечна:**

– Свята. Хаця мяне з вайной нічога не звязвае. Ведаю пра вайну па кнігах і кінафільмах. І думаю, што вельмі добра, што сучасныя войны не закранулі нашую Беларусь.

**Экспрэс-апытанне падрыхтавалі Ірына РАБУШКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 9.5 дзень | 9.5 вечар | 10.5 дзень | 10.5 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 741 | 740 | 742 | 741 |
| тэмпература паветра, °C | 14 | 13 | 15 | 12 |
| вільготнасць паветра, % | 88 | 89 | 91 | 88 |
| вецер, м/сек | 4-7 | 1-3 | 2-5 | 1-3 |

| Вільня | 9.5 дзень | 9.5 вечар | 10.5 дзень | 10.5 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 744 | 747 | 748 | 747 |
| тэмпература паветра, °C | 15 | 14 | 12 | 8 |
| вільготнасць паветра, % | 89 | 94 | 87 | 89 |
| вецер, м/сек | 2-5 | 2-5 | 1-3 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

**Смаргонскі Макаранка.** Гісторыя жыцця педагога і музыканта Аляксандра Дзяругі са Смаргоні, якога празвалі смаргонскім Макаранкам у гонар знакамітага на ўсесь Савецкі Саюз педагога.

**З Ашмянаў да міланскай «Ла Скалы».** Вядомы оперны спявак і прафесар Аляксандр Батурын, які спяваў на вядучых оперных сцэнах свету, нарадзіўся у Ашмянах.

## Гараскоп 12 – 18 мая



**Авен (21.03–20.04)**

На гэтым тыдні асабліва добра зоркі асвятляюць сяброўскія і любоўныя адносіны. Не прапусціце міма вушэй прапановы, якія тычацца чыіхсьці пачуццяў. Удзел у рызыкоўных ці сумніўных справах можа прывесці да сумных вынікаў. Абставіны будуць патрабаваць ад вас рашучых дзеянняў, аднак вынікі могуць быць няўдачнымі. Калі вы не будзеце сумленнымі, то любая сітуацыя можа аб ярнуцца гарой праблем.



**Цялец (21.04–21.05)**

Жыццёвы патэнцыял гэтымі днямі знаходзіцца на вышэйшым пункце. Аднак вашая ўражлівасць можа прывесці да прыкрых непаразуменняў з блізкімі людзьмі. Не імкніцеся вырашыць усе праблемы адразу. Праявіце больш вытрымкі, прыслухайцеся да свайго ўнутранага голасу. Любую непрыемнасць успрымайце спакойна, не адчайвайцеся, зоркі абяцаюць змены да лепшага.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Калі даеце абяцанні, што вы і зрабілі нейкі час таму, трэба будзе падумаць аб тым, каб ваш партнёр таксама заслугоўваў даверу, як і вы самі. Не трэба шукаць доказаў адваротнага проста таму, што вы раптам адчулі сябе падманутым. Калі паміж вамі ўзніклі нейкія праблемы, яны хутка выраншацца. А да таго часу, пакуль гэта не адбылося, не трэба нічога прадпрымаць. Пастарайцеся весці сябе стрымана – не захапляецеся спакуслівымі прапановамі, пазбягайце выпадковых знаёмстваў.



**Рак (22.06–23.07)**

Напружанне можа ўзрасці да мяжы, таму што магчыма дрэнная навіна. Вашыя перажыванні не будуць дарэмнымі, падрыхтуйце сябе да самага дрэннага. Любую непрыемнасць успрымайце спакойна, не адчайвайцеся, хутка ўсё зменіцца, і вашае жыццё зноў стане бясхмарным. Не нервуйцеся па дробязях. Паводзьце сябе дастаткова стрымана. Не імкніцеся быць актыўнымі і настойлівымі, не прыспешвайце падзеі. Вам будзе патрэбны час, каб разабрацца ў сабе і ацаніць свае сілы.



**Леў (24.07–23.08)**

Практычны падыход да справы, рацыянальнае выкарыстанне энергіі, цудоўная арганізацыя справы дапамогуць павысіць аўтарытэт ці палепшыць фінансавы стан. Абставіны могуць запатрабаваць ад вас рашучых дзеянняў ці адказных рашэнняў, аднак вынікі будуць няўдалымі – вялікая магчымасць памылкі ці няправільна вытлумачанай інфармацыі.



**Дзева (24.08–23.09)**

Калі вы баяліся ўзяць на сябе адказнасць за аб'яднаныя фінансы ці даваць клятвы ў прыватным жыцці, то хутка зразумееце чаму. Планеты больш не ціснуць на вас, і хутка адкрыецца поўная карціна, каму можна, а каму нельга давяраць. Высветліце, чаму вы вагаліся так доўга, і дзейнічайце ў адпаведнасці з гэтым.



**Шалі (24.09–23.10)**

Сябры могуць шмат вам прапанаваць, але вы павінныя прыміраць спрэчку. Калі вы не будзеце заводзіцца з-за дробязяў, вам няма аб чым хвалявацца. Няхай іншыя паўтараюць двойчы сваю знявагу, перш чым вы адкажаце на яе. Першая палова тыдня схіляе да зніжэння жыццёвага патэнцыялу. Магчымыя падманы і ілюзіі. Недахоп энергіі можа выклікаць незадаволенасць і агрэсіўнасць.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Гэты тадзень спрыяльны для праяўлення міласэрнасці, дапамогі. У спагадзе будуць адчуваць патрэбу вашыя калегі, сябры і блізкія. Карысна пачаць комплекс аздараўленчых мерапрыемстваў, курс інтэнсіўнай тэрапіі. Рэкамендуюцца медытацыі, малітвы. Спрыяльны тыдзень для паляпшэння матэрыяльнага становішча, набыцця нерухомасці. Галоўнае – нічога не пераблытаць і рабіць усё своечасова. Тады поспех вам гарантаваны.



**Стралец (23.11–21.12)**

На гэтым тыдні магчымыя значныя падзеі ў асабістым жыцці. Не выключана, што нейкі дзень прыйдзецца прысвяціць свайму партнёру, сям'і і дому. Перыяд па-ранейшым небяспечны і цяжкі для здароўя. Вялікая верагоднасць неспрыяльнага збегу абставінаў або нешанцавання, што негатыўна адаб'ецца на самаадчуванні.



**Казярог (22.12–20.01)**

Цяжка займацца справамі, нядаўняе знаёмства раптам акажацца галавакружным раманам. Цяпер вы здольныя на любую безразважлівасць. Вы будзеце ва ўладзе эмоцый, і гэта неблагі стан для творчага самавыяўлення. Існуе верагоднасць палепшыць сваё матэрыяльнае становішча або пазбегнуць падкопаў праціўнікаў. У другой палове тыдня магчымае пагаршэнне самаадчування, дэпрэсія, галаўны боль.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Хатнія і сямейныя клопаты здадуцца вам утомнымі. Калі ваш партнёр або радня паспрабуюць зрабіць з вас служку, то гэта яшчэ не прычына для таго, каб распачаць вайну на ўсіх франтах. У такіх сітуацыях умейце знаходзіць кампраміс. Людзі, з якімі вы пазнаёміцеся на гэтым тыдні, могуць адыграць у вашым жыцці значную ролю – як станоўчую, так і адмоўную.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Гэты тыдзень абяцае быць надзвычай цікавым і запамінальным. Радасць і весялосць будуць вам забяспечаныя. Вам захочацца навесці парадак у доме. Вы захочаце, каб у ва ўсім навокал вас была гармонія і парадак, а дзеля гэтага спачатку трэба зняць напружанасць, якая ўзнікае ў доме. Абмяркуйце з сямейнымі і з партнёрамі па бізнесе будучыя выдаткі, толькі так вам удасца захаваць з імі добрыя стасункі.

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

## Як п'юць пад Радашкавічамі

**Г. Радашковичы Виленск. г.** Вёскі каля нас жывуць не цікава, але не уважаючы на гэта ў гарэлцы не трымаюць меры. У нас беларус кали нарэжэцца, дык як быдла. Польские мужыки пьюць куды менш за беларусаў. Аднаму маему знаёмаму даводзилася быць у польским мястэчку, дык там дужа пьянога чалавека спаткаць можна рэдка. Пьюць у меру!

Адкуль беларус бярэ грошы на гарэлку? Адзин чалавек з в. Галавичы пришоў да аднаго чыноўника и кажэ: "я привязу летам новага сена пудоў 30, дык дайце мне грошы 4р. 50 кап., трэба купиць хлеба и сабе кашулю". Той даў грошы. Але праз гадзину гэты чалавек ужо качаўся на вулицы, – нажлухціўся гарэлки...

**Юзя Шчупак.**

**Перщая Беларуская Газэта з Рысунками "Наша Нива". №10 ад 9 мая 1908 г.**



Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227
**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 10700 экз.
Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. № 19 (420) 9.5.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11.
Зак. № 1650. Падпісана ў друк у 13.00 8.5.2003

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667**, **53841**.
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284**.
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233**, **55539**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. **33077**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211**.
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172**.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444